БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 42 (13574)

12 — 18 кастрычніка 1992 года

Кошт 3 рублі.



## КІРМАШ-92 У МІНСКУ

На гэтым тыдні ў комплексе "Мінскэкспо" праходзіць Міжнародны універсальны "Мінскі кірмаш". Пачаўся ён 14 кастрычніка, а закончыцца ў суботу.

На кірмашы прадстаўлены вытворча-тэхнічная прадукцыя і абсталяванне, сыравіна і будаўнічыя матэрыялы, тавары і харчаванне з усіх краін СНД і Балтыі.

У час кірмашу ва ўсіх раёнах Мінска і ўвогуле па рэспубліцы арганізаваны гандаль для насельніцтва, дзе ў ролі прадаўцоў выступаюць калгасы, саўгасы, прадпрыемствы.

Каля 60 працэнтаў фірм прымаюць удзел у кірмашы ўжо не першы раз. Гэта ў асноўным беларускія прадпрыемствы.

## "АД СЛОЎ — ДА СПРАВЫ!"

Гэты выраз стаў дэвізам прыхільнікаў беларускасці ў Магілёве.

Днямі ў памяшканні мясцовага пединстытута адбылося ўрачыстае адкрыццё Беларускага нядзельнага ліцэя, які пачаў працаваць пры Магілёўскай філіі Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра (БГАКЦ).

Асноўнай мэтай дзейнасці філіі з'яўляецца выхаванне новага пакалення — беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі.

Сярод выкладчыкаў ліцэя — актывісты гарадскога Таварыства беларускай мовы, сябры Нацыянал-Дэмакратычнай партыі Беларусі і маладзёжнай суполкі "Машэка".

Больш за 50 слухачоў пачалі заняткі ў новай навучальнай установе.

Юрась ПІВУНОЎ.
г.Магілёў.

## БНФ — ЗА РЭФЕРЭНДУМ. А ВЯРХОЎНЫ САВЕТ?..

Размовы пра рэферэндум то заціхаюць, то зноў распачынаюцца з новай сілай. А на гэты раз, відаць, толькі адными словамі не абыдзецца. Упраавай Беларускага Народнага Фронта прынята рашэнне аб правядзенні на плошчы Незалежнасці 18 кастрычніка, напярэдадні склікання сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, мітынгу ці сустрэчы з дэпутатамі. Адзіная мэта гэтай акцыі — патрабаванне ад парламента пастаноўкі пытання аб назначэнні даты ўсебеларускага рэферэндуму першым на парадку дня. 20 кастрычніка, у першы дзень работы сесіі, плануецца выставіць пікеты ля будынка парламента. Па ўсім відаць, што БНФ на гэты раз настроены рашуча. І трэба чакаць, што Вярхоўны Савет РБ пойдзе насустрач патрабаванням дэмакратаў.

## БЕЛАРУСЬ У СНД

У панядзелак, 12 кастрычніка, у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета РБ С.С.Шушкевіча і Старшыні Савета Міністраў В.Ф.Кебіча з прадстаўнікамі прэсы, прысвечаная вынікам нарады кіраўнікоў дзяржаў СНД у Бішкеку.

Ва ўступным слове С.С.Шушкевіч зазначыў, што нарада прайшла плённа, дасягнута пагадненне па асноўных пытаннях. Так, адбыўся абмен думкамі аб асобных накірунках дзейнасці СНД. Было спрошчана пытанне аб гаспадарчым судзе: дэлегаванне прадстаўніцтва краіны азначае давер суду. Наша рэспубліка дэлегавала прадстаўніцтва і мы маем вялікае жаданне, каб ён хутчэй пачаў працаваць.

Беларусь імкнецца мець пагадненне аб рублёвай зоне. Цяпер рубель не з'яўляецца ў поўнай меры сродкам плацяжу: Беларусь не можа, напрыклад, разлічвацца з Расіяй грашыма, заробленымі ў Казахстане ці Кыргызстане (у гандлі з імі мы маем станоўчае сальда). На жаль, поўнае пагадненне пакуль што не дасягнута. Але створаны міжбанкаўскі саюз, які, ёсць спадзяванне, дапаможа вырашыць гэтае пытанне.

Статут СНД пакуль што прыняты не быў – вырашана мэтазгодным яго дапрацаваць. Кіраўніцтва Беларусі лічыць, што ў Статуце павінна быць адлюстравана ўсё тое, што ўжо зроблена да гэтага часу.

В.Ф.Кебіч заявіў, што Беларусь будзе да канца змагацца за адзіны рубель. Але зараз падрыхтавана ўсё (абсталяванне, база), каб у любы момант увесці сваю валюту. Нечаканасцю для грамадзян гэта не стане: абвяшчэнне аб увядзенні ўласнай валюты павінна быць зроблена для СНД за 6 месяцаў. Да таго ж, для ўвядзення ўласнай валюты неабходна мець стабілізацыйны фонд у СКВ. Пакуль што сродкаў, якія мы можам атрымаць, для гэтага недастаткова.

Ці плануецца поўны пераход на разліковыя білеты?

Не. А ўвядзенне разліку "зайцамі" ў Гродзенскай і Брэсцкай абласцях – яшчэ адна спроба абараніць рынак.

Ці вызначаны на перспектыву дакладны час увядзення нацыянальнай валюты?

Час увядзення нацыянальнай валюты з'яўляецца сакрэтам дзяржавы.

Беларусь далучылася да пагадненняў аб удзеле ў Дагаворы СССР–ЗША аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці, аб абмежаванні сістэм супрацьракетнай абароны, аб стварэнні сумеснай кансультатыўнай камісіі па пытаннях раззбраення. Беларусь надалей будзе прытрымлівацца арыентацыі на бяз'ядзернасць і нейтральнасць. Беларусь не далучылася да палажэння аб галоўным вайсковым камандаванні. Пагадненні з краінамі СНД заключаюцца нашай рэспублікай на двухбаковай аснове. Узгодненыя тэрміны вываду стратэгічнай ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі – прыкладна 2,5 года.

Вольга АКУЛІЧ.

## ВОЛЬНАМУ БІЗНЕСУ — ВОЛЬНУЮ ПРЭСУ!

Будучыня беларускага друку турбуе, відаць, не толькі саміх прадстаўнікоў газет і часопісаў і іх чытачоў–падпісчыкаў (такіх нешматлікіх апошнім часам). І сведчаннем гэтага з'яўляецца заява прадпрымальнікаў Беларусі да кіраўніцтва рэспублікі, у якой бізнесмены просяць вызваліць прэсу ад шэрагу падаткаў, і ў першую чаргу ад падаткаў на дабаўлены кошт.

Як адзначыў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Беларусі У.Карагін, гэты крок выкліканы катастрафічным становішчам у галіне прэсы. І калі не пайсці насустрач рэспубліканскім газетам і часопісам, то ў наступным годзе яны апынуцца ў даўгавой яме.

У.Карагін дадаў, што Прэзідэнт Расіі Б.Ельцын, дарэчы, адмяніў падатак на дабаўлены кошт для прэсы.

## Стоп-факт

## ДРУК-93: ПОГЛЯД З ПАРЛАМЕНТА

Пастаянная камісія ВярхоўнагаСавета Рэспублікі Беларусь па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека абмеркавала 12 кастрычніка вынікі сустрэчы з рэдактарамі рэспубліканскіх азет і часопісаў, якая адбылася на мінулым тыдні ў парламенц е.

Народныя дэпутаты прыйшліда высновы, што становішча, пры якім заснавальнікамі большасці выданняў з'яўляюццадзяржаўныя структуры, не спрыяе дэмакратызацыі друку. Газеты і часопісы вымушаны сённяпрасіць грошы на сваё існаванне, а значыць, заснавальнік без клопату можа дыктаваць рэдакцыям сваю палітыку. Каб прэса ў рэспубліцы была па-сапраўднаму свабоднай, патрэбнаправесці яе дэманапалізацыю. Разам з тым, неабходна захаваць і дзяржаўныя датацыі, бо перыядычны друк у цяперашніх неспрыяльных эканамічных умовах проста не выжыве. Але перш чым вызначыць сістэму размеркавання грашовых сродкаў на будучы год,плануецца прааналізаваць сёлетняе выкарыстанне датацый рэдак цыямі.

Члены камісіі выказалі агульнае меркаванне, што выдавецтва "Беларускі Дом друку" павінна быць выведзена з падпарадкавання Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Савета Міністраў. Як слушна было заўважана, гэтая дзяржаўная структура займаецца гаспадарчым абслугоўваннем урада і не мае ніякага дачынення да выдавецкай дзейнасці. Таму лепш за ўсё, каб пра выданне газет і часопісаў клапацілася Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

А. ВЕРАЦЕЙСКІ.

Старонку вядзе
Франц ЛЯВІЦКІ,
тэл. 32-13-04

## А карыкатурыст малюе...




Курсы па вывучэнню Біблії адкрыліся пры Палацы культуры хіміка. Кожны аўторак сюды збіраюцца людзі рознага ўзросту. Вернікі з царквы евангельскіх хрысціян-баптыстаў запланавалі правесці 17 лекцый на рэлігійную тэматыку. Для наведвальніка будуць прадэманстраваны відэафільмы, якія раскажуць пра жыццё святых.

* * *

Сёння ў розных гарадскіх установах набірае тэмп скарачэнне штатаў. На заводзе ж пускавых рухавікоў — адваротнае. Прадпрыемства набірае высокакваліфікаваных работнікаў.

Толькі за верасень на завод уладкавалася 57 чалавек.

* * *

Сумную інфармацыю паведамілі работнікі загса Савецкага раёна. За 8 месяцаў тут уступілі ў шлюб 664 маладыя пары. А скасавалі ж свой "моцны" шлюб... 663. Пашчасціла выжыць усяго адным закаханым. Куды ж знікла "светлае і высакароднае" пачуццё? Пэўна, утапілася ў чарцы, або згарэла ў сварцы...

## Гомельская хроніка

* * *

Як кажуць мудрацы: нашы зубы — людзям любы! Але ж мудрыя жылі ў іншы час. Сёння нашу кішэню скубуць высокія цэны. Вось і стаматалагічная паліклініка № 2, што па вуліцы Клермон-Феран, мяркуе адкрыць платныя паслугі для насельніцтва.

Напрыклад, працэс выдаленння зуба каштаваць будзе больш за 50 рублёў. А надзейная пломба з замежнай сыравіны абыдзецца "ўсяго" у 60—100 рублёў.

* * *

Пры СШ № 3 вернікі стварылі Нядзельную школу. Каля 300 дзяцей рэгулярна наведваюць яе. Створана некалькі класаў. Школьнікі вывучаюць асновы Хрыстовай веры, знаёмяцца з этыкетам паводзін і г.д. Навучанне бясплатнае.

Ганна АТРОШЧАНКА.



*Оба–на!*

## Хочаш на неба – пакайся!..

На мінулым тыдні ў Мінску адбыліся выступленні прапаведнікаў евангельска-хрысціянскай царквы Дамі сангехз з Паўднёвай Карэі, якія завіталі ў беларускую сталіцу пасля наведвання Масквы і Кіева.

Інфармацыя, якую выдалі прапаведнікі, здзівіла і ўзрушыла многіх людзей (асабліва вернікаў). Карэйцы з пенай на вуснах даказвалі прысутным, што 28 кастрычніка 1992 года адбудзецца (менавіта "адбудзецца", а не "чакаецца"!) другое прышэсце Ісуса Хрыста, у час якога ён узнясе на нябёсы веруючых людзей, а астатніх (грэшнікаў) пакіне на Зямлі, дзе ў хуткім часе пачнецца сямігадовае вялікае бедства. Была ўказана не толькі дата, але нават і дакладны час прышэсця: 20 гадзін.

Многія з тых, хто чуў гэтыя словы, скептычна ўсміхаліся: маўляў, пабачым, як людзі ў нябёсы палятуць. На гэта прапаведнікі рэагавалі проста. Калі ніхто не ўзнясецца на нябёсы ў гэты дзень, то гэта значыць, што сярод нас проста няма праведнікаў.

Карэйцы сваё слова сказалі. Цяпер справа за Ісусам Хрыстом.

## Дарога на Беларусі, пра якую беларусы не ведаюць...

Той, каму яшчэ не надакучыла скардзіцца на дрэнныя беларускія дарогі, можа ўздыхнуць з палёгкай, таму што і ў нашай рэспубліцы не за гарамі з'яўленне трасы, якая будзе адпавядаць сусветным стандартам.

Як паведаміў расейскі друк, паміж брытанскім кансорцыумам ЕВА і расейскімі кампаніямі "Інвест" і "Тэхнаполіс Чарнагалоўка" падпісаны пратакол аб намерах будаўніцтва хуткаснай, камфортнай (і платнай) магістралі Брэст — Мінск — Масква.

Новую магістраль плануецца пракласці паралельна той, якая дзейнічае сёння. А будаўніцтва яе мяркуецца пачаць праз паўгода, здаваць часткамі і поўнасцю завяршыць праз 20 гадоў. Агульны кошт праекта — 150 мільёнаў даляраў.

Усё, як бачым, добра. Але вось што дзіўна. Ва ўпраўленні развіцця дарогі Міністэрства будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог Рэспублікі Беларусь (у той "канторы", якая павінна ведаць пра ўсе дарожкі беларускай зямлі), нічога пра будаўніцтва магістралі сказаць не змаглі: маўляў, нічога не чулі.

## “Тысячагадовыя” клопаты

Мы жывём на мяжы двух тысячагоддзяў. Ня кожнаму пакаленню выпадае такое. Выслоўе "на зломе часу" з пэўнай доляй умоўнасці можна вытлумачыць пераходам летазлічэння ад першай тысячы гадкоў да другой.

"Будучыя лідэры новага тысячагоддзя" — такі назоў першага міжнароднага кангрэса, які адбыўся 5—8 верасня ў Маскве. На ім прысутнічалі таксама прадстаўнікі Беларусі. Увогуле ў кангрэсе ўзялі ўдзел звыш 200 маладых парламентарыяў, палітыкаў, навукоўцаў, вайскоўцаў, грамадскіх і рэлігійных дзеячаў, бізнесменаў, прадстаўнікоў культуры, мастацтва, лідэраў маладзёжных рухаў і арганізацый з Расіі, краін СНД, вядучых дзяржаў свету.

Удзельнікі, як паабяцана ў каляровым праспекце кангрэса, абмяняюцца думкамі па вызначальных праблемах развіцця ў XXI стагоддзі ў:

— ваенна-палітычнай,
— прававой,
— эканамічнай,
— гуманітарнай,
— экалагічнай,
— культурна-адукацыйнай

абласцях, абмяркуюць ( ні больш ні менш! — ад рэд.) магчымыя мадэлі будучага тысячагоддзя.

Аднак у беларусаў, якія пабылі на гэтым кангрэсе, узнікла пытанне: "Хто арганізаваў шыкоўную імпрэзу і на чые грошы частаваліся ейныя ўдзельнікі?". Відаць, гэта не так моцна турбавала маладых беларусаў, калі б яны не шукалі рэальных, практычных вынёскаў дзейнасці гэтага кангрэса. І нягледзячы на гучныя дэкларацыі і назвы — "Будучыя лідэры новага тысячагоддзя", рух "Вадалея", падтрымку ідэі правядзення кангрэса ўплывовымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі (спадарамі Бяссмертных, Вольскім, Гарбачовым, Козыравым, Петраковым, Паповым, Сабчаком, Шаталіным, Шэварднадзе, Яўлінскім, Якаўлевым і інш.)... Карацей, нягледзячы на ўсе гэтыя акалічнасці, за кангрэсам былі бачныя вушкі маладых расейцаў, якія вырашалі праз уплывовы форум свае прыватныя, вузкацэхавыя інтарэсы. Анатоль Лябедзька падазрае, што новы рух спансіравалі структуры прыватнага бізнесу, народжаныя на аскепках ВЛКСМ. Ды і маладыя твары былі па большасці сваёй знаёмыя: іхнія ўладальнікі —былыя камсамольскія функцыянеры.

На адно харчаванне ўдзельнікаў кангрэса выдаткавалася 1,5 мільёна рублёў. Прыемнага апетыту, мы незайздрослівыя! Але беларусы, нават добра паеўшы, настойліва дапытваліся: "Што за рух? Дзеля чаго створаны?". У першы дзень выступалі вядомыя грамадска-палітычныя дзеячы. Выдатна! На другі — разгубленым удзельнікам раздаюць статут новага руху на ангельскай мове. І ўрэшце, шаноўнай грамадзе зачытваюць папярэдні падрыхтаваны немаведама кім заклік, які пасля зачытання перад аўдыторыяй аўтаматычна становіцца не проста паперкай, а мемарандумам міжнароднага кангрэса "Будучыя лідэры новага тысячагоддзя". А хто ж будзе рэалізоўваць гэты мемарандум? Зразумела той, каго ўпаўнаважыў на гэта кангрэс. Мажліва, гэты мемарандум увогуле ніхто рэалізоўваць не будзе, але тым не менш у прыродзе ўжо існуюць такія асобы, якія называюць сябе "ўпаўнаважанымі міжнародным кангрэсам". Такім чынам, праводзіцца міжнародны форум, арганізатары якога маюць грошы, запрашаюць выступоўцаў з гучнымі імёнамі, а пасля... Пасля ж ужо самі арганізатары выступаюць на міжнароднай арэне, выходзяць на замежжа не проста як Іваноў, Пятроў, Сідараў, а як прадстаўнікі ўплывовай міжнароднай арганізацыі. Вось як робіцца імідж. Беларусы ж пабылі ў Маскве, як той жораў пагасцяваў у ліскі. Толькі, зразумела, не ў сэнсе пачастунку, а ў сэнсе рэальных справаў. Як тут не пажартаваць, што маладыя лідэры будучага тысячагоддзя, якое мы яшчэ і ў снах не бачылі, ужо клапоцяцца пра сваё лідэрства.

Усё вышэй азначанае нялішне будзе прыняць да ведама арганізатарам і ўдзельнікам першага нацыянальнага кангрэсу маладых палітыкаў Беларусі, які мяркуецца правесці на пачатку будучага года. Ва ўсялякім разе, якія б колы падобныя пачынанні ні падтрымлівалі, усё залежыць ад сумленнасці арганізатараў і пільнасці ўдзельнікаў.

## Маладым паўсюль у нас дарога?

— Ад парога!..— пэўна працягнуць многія з вас, хто лепшыя гады свайго жыцця “прысвяціў” груканню ў зачыненыя дзверы разнастайных бюракратычных установ.

Справа не зрушвалася з месца, а чыноўнікі ўпэўнена раслі ўверх, як грыбы пасля дажджу. Але чутка прайшла, што будзе стварацца, і ўрэшце мы ўбачылі ўвачавідкі, што створаная такая структура, кабінеты якой, дзе б яны ні размясціліся, заўсёды будуць адчыненыя для маладых. 13 кастрычніка кіраўнік гэтай таямнічай “структурыны” правёў прэс-канферэнцыю і перадаў рэдакцыям газет адозву. Чытайце яе ніжэй і матайце на вус: дзядзька, відаць, не жартуе. Тэлефануйце яму і не давайце спакою. Няхай на справе пакажа, чаго ён варты. А пра прэс-канферэнцыю, сябры, чытайце ў наступным выпуску “ЧЗ”! Ну а цяпер, урэшце, зварот, падпісаны Міхасём Падгайным, ад Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Сёння жыццё задае пытанняў больш, чым прапануе адказаў на іх. І ў гэтах умовах пытанне “ці лёгка быць маладым?” выглядае не проста крыкам душы таленавітага мастака, а надзвычай рэальнай і сур'ёзнай праблемай сённяшняга жыцця.

Як пражыць студэнту на яго стыпендыю? Куды пайсці працаваць маладому спецыялісту? Дзе жыць маладой сям'і? Хто дапаможа пачынаючаму прадпрымальніку? Хто падтрымае маладыя таленты? Пытанні, пытанні, пытанні... І гэта толькі нязначная частка іх. Тыя, што ляжаць, як гаворыцца, на паверхні. А колькі іх яшчэ, маладзёжных праблем — глыбокіх, важных, значных! І толькі комплексная рэалізацыя дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі можа паспрыяць паспяховаму іх вырашэнню.

Улічваючы ўсю вастрыню маладзёжных праблем у рэспубліцы, урад і ўтварыў Камітэт па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь. Рашэнне адказнае і своечасовае. Папракаць урад у стварэнні новай бюракратычнай структуры проста недарэчна: у штаце новага камітэта ўсяго 10 чалавек. А вось задачы на яго ўскладзены сур'ёзныя: узаемадзеянне з дзяржаўнымі органамі і грамадскімі маладзёжнымі арганізацыямі ў галіне маладзёжнай палітыкі; падрыхтоўка праектаў заканадаўчых актаў; распрацоўка рэспубліканскіх комплексных і мэтавых праграм па рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі; работа па прафілактыцы правапарушэнняў і стварэнне аб'ектаў сацыяльнай дапамогі моладзі і падлеткам; узаемадзеянне з міністэрствамі і ведамствамі па пытаннях арганізацыі працы і быту, адукацыі, сацыяльнай абароны маладых грамадзян, працаўладкавання моладзі, прафесійнай перападрыхтоўкі, аховы здароўя і адпачынку і г.д.

У лістападзе Камітэт па справах моладзі плануе арганізаваць сустрэчу прадстаўнікоў беларускай моладзі з кіраўніцтвам урада рэспублікі. Каб яна прайшла як мага больш плённа, супрацоўнікі камітэта звяртаюцца да ўсіх, каго хвалююць праблемы моладзі, з просьбай выносіць свае заўвагі, выказваць парады, прапаноўваць канкрэтныя акцыі і праграмы па тэлефонах: 29-30-01; 29-38-77.

Наш адрас: 220030, г.Мінск, вул.К.Маркса, 40.

## ПАН–БЕЛАРУСІКА

МАЛЬМЕ. У гэтым шведскім горадзе ад сярэдзіны верасня да сярэдзіны лістапада праходзіць вялікая аўтарская выстава беларускага мастака з Польшчы Лявона Тарасэвіча. Калі ў Швецыі гэта другі прадстаўнічы побыт беларускай славутасці, дык у Беларусі Лявон Тарасэвіч выстаўляўся пакуль аднойчы, у 1990 годзе.

* * *

ВАРШАВА. Ва ўрачыстай атмасферы ў Польшчы адсвяткавалі чарговую гадавіну ўступлення ў верасні 1939 г. Чырвонай Арміі на землі так званых "крэсув всходніх". З гэтай нагоды Польскае тэлебачанне паказала праграму, складзеную з фрагментаў дакументальных (і прапагандысцкіх) фільмаў, не пазбегшы, аднак, і грубых фактычных памылак. Напрыклад, у каментары Беласток пераблытаны з Брэстам над Бугам. І ўвогуле, падзеі 53-гадовай даўніны патрабуюць больш пільнага прагляду крыніц, каб пазбегнуць антынавуковага ўплыву ідэалагічнага прэсінгу недалёкага мінулага.

* * *

ВІЛЬНЯ. Новая беларуская газета пачала выдавацца ў Літве – штотыднёвік "Вільня і край". Да гэтага часу ў Вільні выходзіў толькі беларускі штомесячнік "Наша ніва". Юніёр адразу вызначыўся не толькі тэматыкай (беларускае жыццё Віленшчыны), але і фарматам (А8), і шрыфтавой графікай ("Вільня і край" выходзіць у двух выданнях – лацінічным і кірылічным).

* * *

НЬЮ-БРАНСВІК. На XX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, пра якую шырока паведамлялася раней (у тым ліку і намі) выступіў і старшынстваваў шэф БАЗА (Беларуска-Амерыканскага З'адзіночання) Юрый Азарка. Ад Беларусі ў сустрэчы прынялі ўдзел міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, народны дэпутат Валянцін Голубеў, дзеячка БНФ "Адраджэньне" Валянціна Трыгубовіч, літаратар Лявон Пранчак і кампазітар Зміцер Яўтуховіч. Беларусаў Польшчы прадстаўляў прэзідэнт бельскай фірмы "Амега" Валянцін Сельвясюк.

**Паводле паведамленняў замежнага друку.**

Падрыхтавала Таццяна ЕРМАКОВІЧ.



*На сустрэчы ў Бішкеку разгледжаны ўсе пытанні, прапанаваныя на парадак ейнай работы, за выняткам адзінага — Дэкларацыі аб міжнародных абавязацельствах у галіне правоў чалавека і асноўных свабод.*

## *Прэса абышла ўвагай*

### РАТУЙ, БОЖА, АД ПАРЛАМЕНТА

Дні Балгарыі, нядаўна праведзеныя ў Беларусі, прыцягнулі да сябе пэўную ўвагу сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі. Але ўсё ж Дні засталіся нібы пахаванымі пад глыбай іншага свята — 1000-годдзя праваслаўя на Беларусі. Вяртаючыся да прэс-канферэнцыі, праведзенай у верасні, напярэдадні балгарскіх імпрэзаў, варта прыгадаць пэўныя моманты, у прыватнасці, з выступу Грозю Грозева, святара балгарскай праваслаўнай царквы. Карэспандэнт "ЧЗ" задаў пытанне: "Як ставіцца шаноўны госць да ўдзелу святароў у парламенцкай дзейнасці да іхняга дэпутацтва і ці бярэ ўдзел у Балгарскім парламенце тамтэйшая царква?" Таксама зазначым, што журналісты напачатку памыліліся і вырашылі, што Грозю Грозеў — дэпутат, бо быў ён прадстаўлены прысутным як "чалавек, блізкі да ўлады". Святар пажартаваў: ягоная блізкасць да парламента абумоўлена толькі тым, што чорны ход ягонай царквы выходзіць у бок будынка, дзе месцяцца яснавяльможныя парламентарыі.

— Ратуй мяне, Божа, — працягнуў Г.Грозеў, — уваходзіць у парламент. А як здарыцца такое, то пасля гэтага не буду ўжо болей умешвацца ў боскія справы. Пабудова першага балгарскага парламента была такая, што туды ўваходзіў прадстаўнік балгарскай праваслаўнай царквы. Ён узначальваў камісію парламенцкай этыкі. Зараз ва ўправе балгарскай праваслаўнай царквы пануе меркаванне, каб царква не датычыла палітыкі. У Балгарыі, дарэчы, як і ў вас, ёсць спробы праз царкву правесці пэўныя палітычныя інтарэсы і зарабіць на ёй палітычны капітал. Беларуская праваслаўная царква лічыць патрэбным удзел у парламенце — гэта ейная ўласная справа, значыць, зыходзячы з вашай мясцовай сітуацыі, гэты ўдзел прызнаны неабходным.

Дадамо, што ўзнаўленне забытых зносінаў паміж Балгарыяй і Беларуссю даўно наспела. Да гэтага часу балгарскія кіраўнікі большую ўвагу ўдзялялі ўзаемадзеянню з Украінай. А ўвогуле ў Балгарыі ідуць працэсы, добра знаёмыя нам па мясцовых рэаліях. На момант прэс-канферэнцыі там праводзіўся конкурс на лепшы герб рэспублікі. Было прадстаўлена, дарэчы, 45 праектаў! Ёсць з чаго выбіраць. Акрамя ўсталявання балгарскай мовы як дзяржаўнай, у школках дзеці могуць вывучаць турэцкую, армянскую, цыганскую мовы, адпаведна мове маці. Ствараюцца прыватныя выдавецтвы ў сферы культуры. І адзінай канвертуемай валютай, безумоўна, прызнаецца мастацтва. "І наша і ваша заканадаўства, — абураўся прадстаўнік балгарскага бізнесу, — звязалі рукі прадпрымальнікам, тамуназіраўся спад у нашых эканамічных зносінах. Аднак 15 сумесных прадпрыемстваў ужо створана і, відаць, хутка будзе шаснаццатае".

"ПАС"
падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар па пытаннях палітыкі,
тэл: 39-87-94

## ЭКАНАМІЧНЫ ПАСЬЯНС

* * *

Пра тое, што ў Беларусі ўжо ёсць два мільярдэры, паведаміў прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў рэспублікі Уладзімір Карагін. Начальнік беларускіх бізнесменаў адмовіўся, аднак, назваць імёны заможных землякоў, як і не вызначыў сферу іх дзейнасці. Аднак ён адзначыў, што гэта пакуль толькі рублёвыя мільярдэры, пра валютныя рахункі такіх маштабаў прадстаўнікі дзелавых колаў Беларусі толькі мараць.

* * *

Усе харчовыя тавары на тэрыторыі Гродзенскай вобласці рэалізуюцца цяпер толькі па разліковых білетах Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Аплата прамысловых тавараў, паслуг прадпрыемстваў грамадскага харчавання, сферы абслугоўвання ажыццяўляецца як рублямі, так і разліковымі білетамі. Тое ж датычыць і ашчадных банкаў. Апрача таго, ім дазволена да 1 лістапада рабіць аднаразовы абмен рублёў на разліковыя білеты жыхарам рэспублікі ў памеры да 2 тысяч рублёў.

* * *

Нацыянальныя банкі Беларусі адмянілі свабодны продаж валюты ў рэспубліцы. Усяго тыдзень пабылі "на волі" маркі і даляры, для набыцця якіх банкіры не патрабавалі ад грамадзян Беларусі прад'яўлення замежных пашпартоў і адкрытых віз. Цяпер усім, каму патрэбна СКВ, давядзецца зноўку клапаціцца пра візы і пашпарты, а таксама зменшыць апетыты да 500 даляраў ЗША.

* * *

Адміністрацыя станцыі Калядзічы забіла трывогу з нагоды таго, што з 3 жніўня ў іх, насуперак усім інструкцыям аб захаванні грузаў, прастойваюць у тупіку 20 цыстэрнаў з тэхнічным спіртам. Некаторыя з іх пачынаюць працякаць. Груз выбухованебяспечны. Але прыняць спірт станцыю абавязаў пісьмовым дазволам кіраўнік Упраўлення чыгункі Уладзімір Рынг. Гаспадар цыстэрнаў "Знешгандальпрамінвест" збіраецца адправіць спірт у Фінляндыю, а адтуль – у Аўстрыю. Груз з Расіі, але Масква прыняць яго назад адмаўляецца. А ў Знешэканомсувязь па ліцэнзію на рээкспарт тэхнічнага спірту гаспадар пакуль не з'яўляецца.

* * *

Брэсцкая гандлёва-прамысловае аб'яднанне "Надзея" прад'явіла канадскай фірме "Глобаў" судовы іск на 80 тысяч даляраў. Прычына канфлікту ў тым, што на працягу апошніх некалькіх месяцаў заакіянскія партнёры не аплачваюць прадукцыю прадпрыемства – жаночыя кашулі з натуральных тканін.

* * *

Паводле звестак Камітэта па знешніх эканамічных сувязях РБ, баланс знешняга гандлю рэспублікі, які доўгія гады быў адмоўным, сёння не толькі выраўнаваўся, але экспарт перавышае імпарт на 200 мільёнаў даляраў. Нягледзячы на гэтую прывабную лічбу, падстаў для аптымізму няма, бо дасягнута яна не ў выніку росту аб'ёмаў рэалізацыі прадукцыі на сусветным рынку, а толькі за кошт скарачэння закупак за мяжой тавараў народнага спажывання і неабходных для народнай гаспадаркі матэрыялаў.

Вядучы старонкі — эканамічны аглядальнік "ЧЗ" Зміцер ЛУКАШУК.

# КАЛІ АДКЛЮЧАНЫ РУБІЛЬНІК

**Мінулым летам у Парыжы збіраўся "круглы стол", прысвечаны праблемам энергазабеспячэння краін Усходняй Еўропы. Заклапочаная праблемамі Усходняя Еўропа была прадстаўлена дэлегацыямі Беларусі, Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Румыніі, Чэха-Славакіі і Балгарыі. Заходнюю частку кантынента прадстаўляла дэлегацыя Францыі ад імя дзяржаўнай кампаніі па вытворчасці электраэнергіі "Электрасьон дэ Франс".**

**Уладзімір ЗАБЛОЦКІ, намеснік старшыні Камісіі па навуцы і тэхналогіі Саўміна Беларусі, быў адным з удзельнікаў "круглага стала".**

**– Уладзімір Мікалаевіч, ці праясніў штонебудзь для нас гэты "круглы стол"?**

— Вядома. Як мінімум — з'явілася больш яснае ўяўленне аб энергетычных праграмах нашых суседзяў па СНД — Расіі і Украіны. І не толькі аб іх. Кожны дзень прадстаўляліся адзін-два грунтоўныя даклады па стану энергетычных праблемаў краін —удзельніц "кс", кожны дзень гэтыя даклады абмяркоўваліся ў кантэксце магчымых узаемадзеянняў.

**– Якая была праграма працы?**

— Мы абмяркоўвалі праблемы бяспекі ядзерных электрастанцый былога Саюза, вырашалі пытанні забеспячэння маніторынга тэрыторый Усходняй Еўропы. Нам неабходна было вызначыць сумы ўкладаў, неабходных для гарантавання бяспекі працы нашых АЭС. Ужо зараз можна сказаць, што сумы гэтыя вельмі вялікія. Некаторыя станцыі далей эксплуатаваць нельга. Гэта датычыць у першую чаргу рэактараў чарнобыльскага кшталту (такія працуюць на Ігналінскай і Санкт-Пецярбургскай станцыях). У самой гэтай канструкцыі закладзены вялікі працэнт ненадзейнасці. Існуюць розныя шляхі, з дапамогай якіх гэтую ненадзейнасць можна звесці да мінімуму, але канструкцыйная магчымасць парушэння працы рэактара ўсё роўна застаецца... Як вы разумееце, вырашэнне такіх праблемаў абыдзецца нятанна.

У Парыжы абмяркоўвалася таксама пытанне аб магчымым траспартаванні электраэнергіі з Усходу на Захад і наадварот. Хаця пытанне гэтае, гублялася сярод праблемаў стандартаў і якасці электраэнергіі, якую выпрацоўваюць у СНД. У заходніх сетках лічацца недапушчальнымі адхіленні ад стандартнага ўзроўню напружанасці, якія сталі звыклымі для нас.

**– Значыцца, магчымасць узаемных паслуг такога кшталту выключаецца?**

— Не. Але неабходны час і грошы. Нядаўна, напрыклад, наша рэспубліка падпісала з Расіяй пагадненне аб будоўлі энергамоста паміж Захадам і Усходам, які будзе праходзіць цераз тэрыторыю Беларусі. Гэта праца ўяўляе для нас значную выгаду. Шкада толькі, што мы не заўжды ўмеем карыстацца ёю. Знаходзячыся ў цэнтры Еўропы, звязваючы Захад з Усходам, мы павінны атрымліваць так званую "геаграфічную рэнту-2" не толькі за ажыццяўленне на нашай тэрыторыі падобных праектаў, але і за транспартаванне нафты, газу і г.д. Пакуль што ў гэтым плане Беларусь застаецца "беспадатковай" тэрыторыяй.

**– Што думаюць французы аб эканамічным патэнцыяле СНД і Беларусі ў прыватнасці?**

— Пад час сустрэчы ўдзельнікаў "кс" пад кіраўніцтвам "Электрасьон дэ Франс" нашай увазе быў прапанаваны даклад французскага эканаміста, які ўтрымлівае аналіз сітуацыі, што склалася на тэрыторыі былога Саюза.

З аднаго боку, эканамічны патэнцыял Беларусі ацэньваецца занадта скептычна, а з другога — дакладчык схіляўся часта ў бок блакітнавокага аптымізму. У нас дастаткова магчымасцей для эканамічнага адраджэння, дастаткова падрыхтаваных спецыялістаў, што здольны працаваць, і правалы, якія суправаджаюць нас на працягу некалькіх год, гавораць хутчэй аб дрэннай арганізацыі і парушэнні вытворчых сувязяў, чым аб банкруцтве саміх прадпрыемстваў. Гэта першае. Другое — французскі эканаміст недастаткова ацаніў здольнасці нашай крэдытна-фінансавай сістэмы. Ён не ўлічыў, што на наш рынак яшчэ не "выкінуты" зямля і асноўныя сродкі вытворчасці, якія, на маю думку, здольныя забяспечыць напаўненне грашовай адзінкі. Вядома, бедны рынак спажывецкіх тавараў, які існуе ў нас сёння, не можа вытрымаць параўнання з паўнакроўнымі рынкамі Захаду, дзе ў якасці тавару прызнана ўсё... Мяне здзівіла ўяўленне французаў аб тым, што нібыта да ўлады ў рэспубліцы прыйшлі новыя людзі. Між тым, нават хуткі аналіз урада паказвае, што наменклатура пакуль што сваёй улады нікому не аддавала. Карацей кажучы, французы не спрабавалі ўпэўніць нас у чымсьці, а хутчэй правяралі правільнасць уласных высноў.

**– Чаму менавіта Францыя выступіла ў ролі "застрэльшчыка" пры арганізацыі "круглага стала"?**

— Хаця б таму, што ва Усходняй Еўропе французы бачаць патэнцыяльны рынак збыту прадукцыі. У першую чаргу — электраэнергіі. Але гэта, акрамя таго, можа быць вытворчасць і мантаж энергетычных установак (ядзерных — у тым ліку), наладжванне новай вытворчасці на прадпрыемствах нашых былых "атамных" ведамстваў.

**– Якія-небудзь дамоўленасці ў гэтым плане ўжо ёсць?**

— Было толькі абмеркаванне. У далейшым групы спецыялістаў-энергетыкаў зоймуцца пралічваннем варыянтаў супрацоўніцтва з Францыяй і Канадай. У гэтых дзвюх краінах ядзерная энергетыка найбольш развіта, колькасць непрыемных інцыдэнтаў на станцыях зведзена да мінімуму, капіталаўкладанні ў гэтую галіну значна большыя, чым у нас. Французы і канадцы выпрацоўваюць надзейныя рэактары, адпаведныя абарончыя контуры і даюць цвёрдыя гарантыі бяспекі іх працы.

**– Краіны СНД, якія традыцыйна пастаўляюць за мяжу энергетычную сыравіну, паступова ператвараюцца ў імпарцёраў энергіі?**

— Што датычыць канкрэтна Беларусі, то ў нас вырабляецца каля 0,7 кілавата энергіі на жыхара, а ў той жа час у развітых краінах гэта велічыня балансуе ў межах ад 4 да 6 кілават. Генерыруючыя магутнасці ў рэспубліцы меншыя, чым, напрыклад, у Латвіі, прыкладна ў 2,3 раза. У літоўцаў ёсць Ігналінская АЭС, некалькі буйных ЦЭС. У нас жа ў свой час палічылі, што мы нядрэнна "харчуемся" электраэнергіяй з-за межаў рэспублікі. Сёння пятая частка неабходнай нам электраэнергіі атрымліваецца за кошт імпарту.

**– Значыць будзем імпартаваць і далей?**

— Усёй энергіі нам не набыць. Беларусі неабходна выпрацоўваць эксклюзіўную энергетычную праграму. І ад выкарыстоўвання АЭС нам нікуды не дзецца. Не існуе іншых крыніц энергіі, якія маглі б вырашыць для нас праблему энергазабеспячэння. Паўлічыць небяспеку новага Чарнобыля мы ўжо не здольны: Ігналінская АЭС знаходзіцца ў двух кіламетрах ад нашай мяжы. Нам неабходна разлічваць на больш дарагія, але і больш надзейныя праекты. Зараз знойдзены сродкі для фінансавання падрыхтоўкі такой праграмы для Беларусі. Група экспертаў гэтай восенню павінна прадставіць для абмеркавання яе канцэпцыю. Затым пачнецца праца непасрэдна над праграмай. І тут хутчэй за ўсё мы будзем арыентавацца на ўзаемадзеянне з Украінай і Расіяй у галіне паставак абсталявання: адны мы не ўкамплектуем праграму. Нам неабходны парагазавыя энергетычныя ўстаноўкі, дастаткова кампактныя, з нізкай "капіталаёмкасцю" і высокім ККД, здольныя насыціць раёны, дзе не хапае электраэнергіі.

**– Ці існуе, па вялікаму рахунку, ядзерная энергетыка на Беларусі?**

— Практычна ў нас яе няма. Але ёсць спецыялісты, якія, нягледзячы на даволі спецыфічны (проста кажучы — ваенны) профіль, здольныя разблытаць клубок энергетычных праблемаў Беларусі. Мяне вельмі непакоіць магчімасць захавання гэтага навукова-тэхнічнага патэнцыялу. Фінансаванне навуковых устаноў значна скарацілася. Многія людзі працуюць на палавіну, на трэць стаўкі і, такім чынам, неяк існуюць. Усё гэта непасрэдна звязана з мікраэканамічнымі праблемамі. У першую чаргу гэта датычыць фінансавання камерцыйнай дзейнасці дзяржаўных прадпрыемстваў з бюджэту, які, па ідэі, павінен працаваць выключна на стратэгію, на будучае дзяржавы, і навука — адна з прэярытэтных галін такога капіталаўкладання. А пакуль што бюджэт пасляхова "прадаецца".

Сваю "лепту" ўносяць і празмерныя ваенныя расходы, якія наша эканоміка папросту не "цягне". Усе размовы аб тым, што нам нельга скарачаць армію (інакш усіх перастраляюць), не больш чым слоўная гульня. Нам сёння пагражаюць ў першую чаргу нашы ўнутраныя праблемы, карані якіх, акрамя іншага, і ў тым, што замест васьмі мы трацім на армію пяцьдзесят мільярдаў рублёў. Беларусі гэта не патрэбна. Мы нейтральная дзяржава са статусам бяз'ядзернай зоны.

Непакоіць яшчэ і тое, што людзі навукі і бізнесу, прамыславікі да гэтага часу не звязаны паміж сабою, што дало б ім магчымасць наладзіць пастаянны прадукцыйны абмен "інтэлектуальнай уласнасці" і грашовых сродкаў. Прыкладная навука павінна служыць прамысловасці, а прамыславікі павінны шукаць "ноў-хаў". Без вырашэння праблемы аўтарскага права, сертыфікацыі прадукцыі, якая выходзіць на рынак, і забеспячэння яе патэнтнай чыстаты прамысловасць будзе працягваць выпускаць прадукцыю па "крадзеных" тэхналогіях (у галіне вылічальнай тэхнікі, напрыклад, саюзная палітыка ўжо з сярэдзіны 60-х гадоў была накіравана на крадзеж ідэй, тэхналогій і праграмнага забеспячэння), а навуковы свет у сваёй большасці па ўзроўню даходаў застанецца дзесьці паміж вадзіцелямі тралейбусаў і рабочымі кацельняў. Існуе і шмат іншых праблемаў. Усе яны комплексныя: без рашэння нават самай малой з іх лёс навуковага патэнцыялу рэспублікі застанецца ў падвешаным стане.

**– Але вы, акурат, і працуеце ў Камісіі па навуцы і тэхналогіях. Рашэнне такіх задач – ваш абавязак і ваш хлеб.**

— Усё правільна. Толькі ў складанай, комплекснай сістэме нельга нешта змяніць адразу, абыходзячы пры гэтым іншыя кольцы ланцуга. Уявіце сабе: корань усяго бедлама тоіцца ў неадрэгуляваных адносінах уласнасці. Ёй (уласнасцю) распараджаюцца сёння тыя, хто не мае на гэта ніякага права: старшыня калгаса прадае калгасныя землі, хаця законнае права на іх мае толькі дзяржава; памяшканні на прадпрыемстве здае ў арэнду дырэктар, хаця ўласнік — ізноў-такі дзяржава, а кіраўнік з'яўляецца толькі наёмным менеджэрам. Калі захаваецца гэты кавардак, то і ва ўсёй дзяржаве, на ўсіх яе ўзроўнях парадку не будзе. Усе мае намаганні могуць выліцца толькі ў спачуванні грамадзянам рэспублікі.

Гутарку вёў Аляксандр КІШКІН.

# ТЭЛЕМУЗА: УСЁ І НІЧОГА




Шчыра кажучы, тэма агляду музычнага эфіру Беларускага тэлебачання запланаваная намі даўно. І ў той час, калі мы яе планавалі, гаворка мелася быць выключна пра татальна залежны ад Масквы рэпертуар тутэйшых музычных праграм. І "Каралеўскае паляванне", і "Лідэр", і "Фаварыт", і "Крок", не гаворачы ўжо пра мяшанкі па заяўках, былі амаль цалкам запоўненыя відэазапісамі жывых і мёртвых зорак "братніх народаў", прычым з яўным ухілам на ўсход: тут табе і "Брыгада С", і Талькоў, і Малінін, і Дабрынін. Праўда, калі каментатар аб'яўляў, што "ў нашага Крылова сёння свята", на змену здзіўленню беларускага гледача прыходзіла разуменне, чаму ўсё гэтак, чаму ў сябе дома мы не чуем сваіх песень: тыя, хто сёння стварае надвор'е на БТ, свядома прапануюць нам свайго Крылова, свайго Сукачова, свайго Талькова. І яны не жадалі нават бачыць нашага Шалкевіча, нашага Камоцкага, нашага Варашкевіча...

Гэта не магло заставацца па-за ўвагай прэсы. Сярод натоўпу "летописцев империи" знаходзіліся моцныя галасы і ў абарону культурнай суверэннасці Беларусі. І не спяшайцеся абвінавачваць іх у замкнутасці і абмежаванасці: рацыянальны культурны абмен — гэта калі ты чуеш, бачыш і ведаеш усё сваё і ўсё лепшае ў свеце. А трэці гатунак ад братняга народа няхай застанецца братняму народу.

Беларус не супраць таго, каб паслухаць песні гурта "Крыдэнс кліаўотэр рывайвэл", але навошта яму гэта ў выкананні Сукачова? На Камароўцы нейкі Янка Смаль не горш лабае рэпертуар "Бітлоў", дык здымайце яго, калі ў вас такі ўзровень, спадары Бэтэшнікі.

Праўда, і іх зразумець можна: мы ж усе — дзеці савецкай сістэмы, ейныя пестуны-выхаванцы; і кожны хоча як найменей рабіць, а выніку дасягнуць як найбольшага. Хочаце вы зрабіць паўгадзінную музычную праграму? Адзін шлях: гэта месяц, а то і два працы над пошукам арыгінальных выканаўцаў, на тэлездымках, на мантажы, распрацоўка эфектных сцэнарных хадоў, рэжысёрскіх вырашэнняў. Другі шлях: гэта ўсяго паўгадзінны перазапіс маскоўскіх праграм і хуценькая склейка іх з уласным павярхоўным каментаром. Для беларусаў сойдзе.

І ўсё ж пад уплывам прэсы праз зрух у грамадскай думцы нешта пачало змяняцца. Праўда, вось на гэтым этапе і прыходзіш да высновы, што "ўсё" і "нічога" — гэта зусім не антанімічны шэраг. Няхай даруюць мне лінгвісты, але гэта словы-сінонімы. Пакуль беларуская прэса, прадчуваючы ў нацыянальным року сродак беларусізацыі, прапагандавала праз яго забароненыя тады нацыянальныя сімвалы (на вопратцы, на інструментах музыкаў дзе-нідзе сустракаліся прыкметныя Пагонькі, бел-чырвона-белыя стужкі, якія красаваліся на музычных здымках і постарах "Бярозкі", "Нівы" і г.д.), Беларускае тэлебачанне станавілася ў позу здольнага толькі ацэньваць настаўніка пачатковай школы.

"Не той узровень" — гэткі сакраментальны выраз не раз чулі дзесяткі беларускіх музыкаў, спрабуючы прарвацца ў беларускі тэлеэфір скрозь заслону пануючай там чужой маскультуры трэцяга гатунку. І калі яны, так і не прарваўшыся ў родную хату, выскачылі ў свет (беларускія кружэлкі пачалі выходзіць у ЗША, Францыі, Канадзе, ФРГ, Польшчы), калі пра гэта стала шырока вядома ў рэспубліцы, тэлемаўчанне стала падазроным. Спасылкі на неадпаведны ўзровень ужо не падыходзілі.

І дзесьці з 1991 года Беларускае тэлебачанне ўзялося за беларускі рок.

А вы ведаеце, што будзе, калі за белую сукенку ўзяцца бруднымі рукамі?

Калі для беларускага гледача не было беларускага рока, ягоная свядомасць спала. Калі яму паказалі забруджаны сурагат беларускага рока, свядомасць абурылася і адвярнулася.

Нездарма, відаць, адзін беларускі музыка заявіў: "Калі вы хочаце ў тры хвіліны змарнаваць гадамі набываны аўтарытэт, пакажыце адну песню па Беларускім тэлебачанні."

Бадай, досыць агульных абвінавачанняў, пяройдзем да фактаў. Тым больш, якімі б сумнымі яны ні былі, але ў здаровым асяроддзі (спадзяюся, такім і з'яўляецца асяроддзе нашых чытачоў) выклікаюць часам толькі смех.

Вось, скажам, фестываль музыкі Маладой Беларусі "Басовішча", які ўжо трэці год праходзіць у Польшчы і выклікае ўсё большы розгалас. Я разумею, калі кароценькія паведамленні даюць пра яго "MTV" або "Telewizja Polska". Яны ж не беларусы. А вось чаму БТ абмяжоўвалася раней такімі ж пстрычкамі? Мо таксама не беларусы? Але нарэшце 7 жніўня г.г. выказаліся.

Калі рэжысёр ставіў задачу спляжыць "Басовішча-92", дык найбольшы прафесіяналізм праявіў тут мантажор: вось выступае "Крама", цішыню глыбокай ночы прарэзваюць неразборлівыя гукі беларускага гіта пра карчму, камера параязджае на публіку, а там... чамусьці ўжо ясны дзень, дзе сонная публіка смокча піва і пазяхае нібыта пад гукі таго ж супер-гіта.

Ці не гэтая вялая публіка дала "Краме" трэці прыз папулярнасці? Ці не гэтыя невыразныя мелодыі прымусілі аўтарытэтнае журы прызначыць "Краме" Гран-пры і 6 мільёнаў злотых?..

Ды што здзіўляцца эфектнаму антыбеларускаму мантажу, калі сама мова музычных каментатараў БТ з'яўляецца антыбеларускай. Вось вядучая праграмы "BMW" Аксана Лявіцкая падводзіць вынікі "Басовішча": "Фестываль зрабіў на нас вялікае АБ'ЯВЕНЕ. Але выступілі, на жаль, і гурты ФАЛЬВАРКАГА толку".

Не ведаю, дзе вучылася беларускай мове музычная аглядальніца БТ. Бадай, сэнс у ейных словах не знойдзе і самы дасведчаны мовазнаўца.

Беларускае тэлебачанне заўсёды "славілася" тым, што ў музычную рэдакцыю бяруць на працу толькі музычных спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй. Таму, відаць, і выйшла: калі спатрэбілася гаварыць пра рок ды яшчэ на беларускай мове, на БТ не знайшлося здольных ні да таго, ні да другога, бо ніводная (нават Беларуская) кансерваторыя не вучыць ні року, ні беларускай мове. Дый універсітэцкі факультэт журналістыкі, на жаль, не здолеў унушыць сваім выхаванцам (хоць бы "крокаўскім" каментатарам), што крытык — гэта не самарэклама і мэтрскі тон, а... Звернемся лепш да класікаў. Лаканічную фармулёўку тут дала выдатная чэшская пісьменніца Марыя Пуйманава: "Крытык — не настаўнік пачатковай школы, каб выстаўляць адзнакі. Ягоная задача ў тым, каб суадносіць аналіз з'яў мастацтва і з'яў жыцця".

А колькі яшчэ адвольных, нікому непатрэбных (бо чужых) ацэнак мы чуем нават з тэлебачання, дзе слухачу вельмі лёгка было б ацаніць усё самому (для сябе).

"Няўдала выступілі на фестывалі "Вакзал" і "Талер"...

"Канцэрт мне асабіста не спадабаўся..."

Шаноўныя крытыкі, гэтак вы можаце лёгка забыць на этыкет і скаціцца да прылюднага назідальніцтва.

Зрэшты, пакінем пакуль этыкет, бо галоўная гутарка ў нас аб прафесіяналізме. Варта зазначыць: пра тое, што зрабіў "Рок-айлэнд" 29 жніўня, паспрабаваўшы стварыць творчы партрэт гурта "Мроя", марылі ад пачатку 80-х гадоў тысячы беларускіх меламанаў. І каб перадача выйшла ў эфір у 1985-м (ці каля таго) годзе, цаны б ёй не было. Усе б заўважылі толькі галоўнае — выхад у свет цэлай праграмы вострых, дынамічных песень "Мроі". Але сёння цяжка не заўважыць і пустой залы, і вымерлай архаікі савецкіх рок-сімвалаў 60-х гадоў (валасатыя цені ў гераічных позах на шэрай сцэне). А ці ўсведамлялі стваральнікі "творчага партрэта" розніцу паміж дыска-дансінгам і рок-канцэртам? Бо дзіўна было, калі з дынамікаў ірваліся напружаныя гукі дабротнага гэві, а ў гэты час дзесятак пэтэвэшнікаў статычна пагойдваўся з двума прыхлопамі — трыма прытупамі. І гэта "партрэт" славутай "Мроі", на канцэртах якой у Парыжы ці ў Беластоку, або нават у Менску заўсёды стаіць сапраўдны вэрхал энтузіязму і неўтаймоўных эмоцый.

Бадай, пакуль толькі адзін "Крок" (гэта ўжо не музычная, а маладзёжная рэдакцыя) час ад часу латае белыя плямы, ствараючы і свае відэакліпы, і запускаючы чужыя. Не буду спыняцца асобна на трохсерыйным відэафільме "Бонда", бо фільма не атрымалася (так, хвілін 20 гаварыльні кругом ды навокал), але затое там прагучаў стары відэакліп "Бонды" — "Ура", зняты на кінастудыі "Беларусьфільм" у 1988-м. Гэта сапраўдны шэдэўрык відэажанру. І ў тым жа выпуску "Крока" зноў крутанулі адзін з апошніх кліпаў С.Шынкарэнкі "Крама" — "Бяжы, хлопец!" І хоць сам кліп значна слабейшы не толькі за "бондаўскі" відарыс, але і за ранейшыя працы самога Шынкарэнкі (напрыклад, кліп "Рокіс" — "Запомні яго такім", дзе невыразнасць вобразна-выяўленчай мовы па-майстэрску прыхаваная зухаватай камбінацыяй электронных эфектаў і зменлівых планаў), тут усё ж — адчуваецца — ідзе нейкая напрацоўка патэнцыялу. Шкада, што занадта павольна. Бо згаданы жнівеньскі выпуск "Крока", бадай, выключэнне ў сэнсе музычнай аздобы. Як выключэнне і вераснёўскі "Крок", дзе ў шэрагу музычнай інфармацыі выплыла і шчыльная гутарка аб праблемах беларускага рока, і цікавая архіўная таямніца — беларускі кліп 80-х гадоў "Рэй" —"Храмы падаюць". Але часцей на тры нумары баланс разлічваецца такім чынам: два расейскія — адзін заходні, два заходнія — адзін расейскі.

Ёсць стыхія, дзе абысціся без беларускай музыкі, дзякуй Богу, цалкам немагчыма. Гэта фальклор. Калісьці мы выступілі з абаронай тэлеперадачы "Запрашаем на вячоркі", якую адна рускамоўная газета назвала непатрэбнай. Але абарона ад аглабельнага крытыканцтва не пазбаўляе нас крытычнага погляду на тое, што крытыкі заслугоўвае.

Вышэйзгаданай газеце не спадабаліся "фанерныя дэкарацыі" гэтых "вячорак". Бадай, дэкарацыі там не самыя горшыя. Падчас выклікаюць нават павагу да мастака перадачы. Але адкуль узяўся такі вядучы фальклорнай праграмы (Генадзь Мезенцаў), які — пачнём з галоўнага — не надта добра валодае беларускай мовай. Усялякія розныя "пажалуста", "дварэц", "дзела", "рабяты"... так і шкварчаць у ягоным канторскім дыялекце. І мо далей не будзе нічога дзіўнага: якое валоданне мовай, такое і разуменне фальклору.

"Запрашаем на вячоркі" не шукаюць сярод жывых людзей жывыя традыцыі. Яны проста запрашаюць самадзейных выканаўцаў з дамоў культуры, якія, таксама часам крыху прызабыўшы родную мову, паводле гаркомаўскіх сцэнарыяў, разыгрываюць, як аб'яўляецца, напрыклад, "слонімскі абрад сватання... або вяселля".

Што ж гэта за арыгінальны абрад, думаеш. Уключаеш штонядзелі тэлевізар і вось бачыш якуюсьці мажную кабеціну, якая трымае ў руках "нацыянальнае" пластмасавае люстэрка сімферопальскай фабрыкі "Красный пролетарий" і натомленым ад фізічнай працы голасам спявае (у лепшым выпадку) вядомую "Купалінку". А ў горшым выпадку гучыць неверагодная калябеларусіца накшталт:

*Мой мілок на "Масквічы"*
*Хутка возіць кірпічы.*

Што плакацца пра адрыў мас ад фальклору, калі плачу заслугоўваюць сродкі ягонай "прапаганды". Бадай, ніводная фальклорная перадача БТ не дае нам уяўлення аб тым, што такое фальклор de facto. Бо фальклор ёсць аўтэнтычны, а ёсць апрацаваны. Можа быць і неапрацаваны фальклор не аўтэнтычным (у выкананні самадзейных або прафесійных артыстаў). Усё гэта мае права на жыццё, але задача прафесійнага тэлевядучага распазнаць лепшыя ўзоры і расставіць правільныя акцэнты.

Неяк мне давялося пабываць у рок-клубе "Няміга" на праглядзе кінаматэрыялаў фальклорных экспедыцый АН Беларусі. Вось гэта быў фальклор: вясковыя мужыкі ды бабы, дзядулі ды бабулі спявалі ды танцавалі так, што завялі нават нашых рокераў. І хоць стужкі былі непрафесійна знятыя, яны б болей уразілі беларускага (дый ці толькі?) тэлегледача, чым домкультураўская псеўданародная самадзейшчына "...вячорак".

Натуральна, усе праблемы БТ можна было б спісаць на нашае агульнае "цяжкае дзяцінства", якое прайшло пад нацыянальна нігілістычнымі сцягамі камунізму. І спісалі б, каб хоць думка пра заўтрашні дзень тут усяляла аптымізм.

Для прыкладу, конкурсная праграма "Тэлебом" час ад часу не проста дае часіну забавы ў выхадныя дні — з вясёлымі "агеньчыкамі", някепскім відэазапісам, прыгожай мовай і вядучага, і ягонага юнага памагатага, — але і вядзе пошук юных талентаў, нібыта думае пра заўтрашні дзень беларускай папулярнай музыкі. Але як думае — відаць з умоваў конкурсу, які зачытвае вядучы: вы можаце спяваць НА ЛЮБОЙ МОВЕ — на расейскай, на ангельскай (як дэмакратычна), але перавагу мы аддаём беларускай (якія патрыятычныя словы). Вынік выплывае ў эфіры, дзе на дзесятак песень добра калі знойдзецца пара-тройка беларускіх. Вось вам і перавага, і рэальны патрыятызм.

А зрэшты, "патрыятычнае" выхаванне пачынаецца ў саміх назвах перадач БТ: "Рок-айлэнд", "Тэлебом", "BMW"... Яны так і пнуцца быць не самімі сабой. Але справа не ў тым, каб кінуцца ў процілеглую крайнасць ды шукаць беларускага каларыту ў назвах накшталт якога-небудзь "Рокдручка", "Тэле-стручка".

Штучны каларыт не спатрэбіцца, калі беларускасць прачнецца ў душы. Гэтага не абудзяць, зразумела, фармальныя прафатэстацыі накшталт той, што прайшла нядаўна, як нам вядома, на БТ. І наш тэлеманаполь да таго часу будзе даваць падставы смяяцца з сябе ("Не беларускім тэлебачаннем, а тэлебачаннем на часткова роднай мове" назваў яго польскі "Czasopis", які атрымаў магчымасць назіраць БТ), пакуль асноўнай мэтай ягонага кіраўніцтва не стане НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ЎСВЕДАМЛЕННЕ. Спачатку сябе, потым народа.

Мо варта было звярнуць увагу на так званы "альтэрнатыўны" 8-ы канал? Але музычны эфір гэтага канала штурхае на тыя ж сумныя высновы, абцяжараныя, да таго ж, тэхнічным бракам у эфіры.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

# СПРЭЧКІ ВАКОЛ БІТВЫ

8 сакавіка гэтага года на плошчы Незалежнасці горада Мінска прайшло свята, якое было прымеркавана да перамогі пад Оршай. У час яго адбылося прынящце прысягі на вернасць Рэспубліцы Беларусь. Прысягу прымалі не толькі афіцэры тэрміновай службы, але і тыя, хто выйшаў у адстаўку альбо з'яўляецца афіцэрам запасу.

Здавалася б, усё добра. Але прапанова аб правядзенні свята выклікала бурную палеміку сярод вайскоўцаў, ды і не толькі вайскоўцаў. Палемічныя хвалі выліліся нават на старонкі перыядычнага друку. Прычым друку не толькі нашай рэспублікі, а і цэнтральнага органа Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі "Красная звезда".



Пачаўся гэты "абмен думкамі" з публікацыі, якая была змешчана 2 верасня ў газеце "Звязда". Яе аўтар народны дэпутат Рэспублікі Беларусь палкоўнік Леанід Прывалаў накінуўся на БНФ і БЗВ з шэрагам абвінавачанняў. Не буду спыняцца на іх, а заўважу толькі, што, на думку спадара палкоўніка, бітва пад Оршай — гэта нават не бітва, а "...радавая сутычка Вялікага Княства Літоўскага ў агульным ланцугу войнаў і ваенных сутычак позняга сярэднявечча за захоп і ўтрыманне тэрыторый". Прывалаў упэўнены, што гэта бітва не несла за сабою карэнных змен лёсу беларускага народа.

Яшчэ далей пайшлі яго калегі, якія змясцілі свой опіс пад назвай "Год 1514. Битва при Орше. Кто и почему привлекает к ней внимание в Белоруссии" ў газеце "Красная звезда" (8 верасня). Сярод шэрагу іх аргументаў можна прывесці тое, што беларусы ў гэтай бітве не ўдзельнічалі. Праўда, яны могуць дапусціць верагоднасць гэтага, але толькі таму, што так "...угодна БЗВ". Але тут жа дадаюць, што ў заходніх крыніцах няма такога ўпамінання. Вось гэта табе і сцвярджэнне. Як быццам шаноўным аўтарам гэтага артыкула невядома ні тое, што землі сучаснай Беларусі складалі тры чвэрці ўсіх зямель Вялікага княства Літоўскага, ні тое, што поўная яго назва Вялікае Княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае (пры гэтым пад тэрмінам "рускае" меліся на ўвазе менавіта беларусы). Пры гэтым яны лічаць, што князь Канстанцін Астрожскі, які кіраваў войскам ВКЛ "... ледзь не самы славуты палкаводзец Літвы пасля Вітаўта". Вельмі ж характэрная фраза. Зноў з'яўляецца гэты тэрмін "Літва". Ён ужываўся расійскімі даследчыкамі ў мінулых стагоддзях. Але асабліва часта сустракаецца ён у працах, якія былі створаны ў незабыўныя часы праўлення "правадыра і настаўніка ўсіх народаў" — Сталіна. Прычым тэрмін гэты аб'ядноўваў усе землі ад мяжы Маскоўскай дзяржавы да мяжы Польшчы "Дзікая Літва", "таемна Літва", "варвары з Літвы". "...войскі цара Аляксея Міхайлавіча выступілі на Літву. Яны захапілі Віцебск, Полацк і накіраваліся ...". Зразумела, што шаноўнаму журналісту "Красной звезды" В.Урбану і яго паплечніку супрацоўніку Інстытута ваеннай гісторыі Міністэрства абароны РФ А.Шышову выдатна вядома тое, што хаваецца пад тэрмінам "літоўскае войска", як і тое, што Канстанцін Астрожскі — не літовец, а прадстаўнік заходнеўкраінскага княжацкага роду, што яго продак быў пасынкам Даніїла Галіцкага, а іншыя продкі з'яўляліся князямі турава-пінскай зямлі. Ведаюць аўтары гэтага матэрыялу і тое, што ВКЛ было шматнацыянальнай краінай, што ў склад яе насельніцтва на роўных уваходзілі і літоўцы, і беларусы, і ўкраінцы. "Забыліся" ж рускія, а дакладней "РФшныя" аўтары яўна незнарок. Методыка ў іх простая і разлічана на недасведчанага чытача — спачатку паказаць, што падзея, якую хтосьці збіраецца святкаваць, нявартa затрат. Потым давесці, што яна не мае ніякага дачынення для жадаючых святкаваць гэту падзею (у дадзеным выпадку для беларусаў), потым з "навуковым" выглядам растлумачыць, што ўсе лічбы, на якія спасылаюцца святкуючыя, — лухта, што той жа кароль Жыгімонт проста-напраста ўзяў колькасць маскоўскага войска, колькасць загінуўшых ды трапіўшых у палон ваяроў "са столі". І пры гэтым прамаўчаць, што тыя ж лічбы прыводзіць у сваёй кнізе "Запіскі аб Масковіі" тагачасны аўстрыйскі пасол у Маскве Герберштэйн. Каго-каго, а гэтага венца ў "падгонцы фактаў" ды "прадузятасці" абвінаваціць нельга. Ды і са словамі Л.Прывалава згадзіцца цяжка. Лічыць гэту бітву радавой падзеяй, ды яшчэ такой, якая "не панесла з сабой карэнных змен лёсу беларускага народа", нельга. Так, войску ВКЛ не ўдалося развіць поспех. І Смаленск сапраўды застаўся ў руках маскоўскага князя. Але ўзяць тую ж славутую Кулікоўскую бітву. Падзея першай велічыні! А праз колькі гадоў пасля яе татары спапялілі Маскву? Галоўнае ж значэнне бітвы пад Оршай у тым, што пасля перамогі войска ВКЛ распалася кааліцыя, якая дзякуючы стараннем дыпламатыі Маскоўскага Княства склалася супраць Вялікага Княства Літоўскага ды Польшчы. А ў кааліцыю гэту ўваходзілі Маскоўскае Княства, Свяшчэнная Рымская імперыя, Данія, Тэўтонскі ордэн, Саксонія, Брандэнбург, Валахія. Ды і крымскі хан чакаў толькі зручнага моманту, каб кінуць свае орды ў набег. Можна прыгадаць і тое, што па дамоўленасці паміж удзельнікамі кааліцыі тэрыторыі варожых дзяржаў падлягалі падзелу. Імперыя атрымлівала землі Польшчы, а Масква — землі ВКЛ. Ці не знаёмы расклад? Менавіта так падзялілі Рэч Паспалітую ў XVIII стагоддзі пераемнікі імператара ды Вялікага князя Маскоўскага.

А пасля бліскучай перамогі на берагах рэчкі Крапіўка гэтыя планы праваліліся. Кааліцыя распалася. Імператар Максіміліян нават выступіў ініцыятарам заключэння міру паміж ваюючымі бакамі. Жыхары ВКЛ былі выратаваны ад чужаземнага панавання.

**Мікола БАГАДЗЯЖ.**

P.S. Для тых, хто захоча больш падрабязна пазнаёміцца з тым, як адбывалася гэтая бітва, рэкамендуем пагартаць старыя падшыўкі "ЧЗ". У 1987 годзе ў тэматычнай старонцы "Спадчына" быў надрукаваны артыкул Генадзя Сагановіча "Там, дзе вілася Крапіўна". У ім падрабязна апісваецца ўвесь ход гэтай славутай для нашага народа бітвы.



Святлана БАГДАНКЕВІЧ

## НЯМІГА

*Чаруе імя тваё слых даўніною...*
*Калісьці —*
*у славе крывавай —*
*апета,*
*А сёння —*
*ты стала падземнай ракою*
*І памяць людскую*
*панесла з сабою...*
*Няміга, а можа,*
*ты — Лета?*

Фота Сяргея БРУШКО.

Падпіска-93 Наш індэкс 63129.

# ПА-ЗА ШКЛОМ СКАФАНДРА...

## Фантастычнае апавяданне

Уладзімір КЛІМОВІЧ



### I

Субгалактычны разведчык зямлян "Фэд-14" змяніў накірунак і пайшоў да зоркавай сістэмы з пяці планет. Экіпаж карабля складалі двое: камандзір — датчанін Люіс Шэлмі і штурман — афрыканец Том Хаттан.

— Усё нармальна. Ляглі на курс, — камандзір суха і коратка паведаміў на Зямлю.

Адтуль праз трэск эфірных памех пачуўся далёкі барытон галоўнага штурмана Панамскага касмадрома:

— Далей трымайце сувязь кодавымі сігналамі... Вялікая адлегласць... Уцякаеце з зоны дзейнасці РЛС... З сістэмы не вярнуўся "Махс"... Паспрабуйце звязацца... хваля 37 Б 408706... праз сто дваццаць зямных дзён павінны ўвайсці ў поле дзейнасці РЛС... асцярожнасць... майцеся інструк... часлівага пал...

### II

Па шэрай, здзірванелай і амаль мёртвай планеце асцярожна ішлі два астранаўты. Яны павольна ступалі ў гарачы пясок і на кожным кроку з-пад шырокіх свінцовых падэшваў юркалі ўбакі сыпучыя фантанчыкі. Навокал расло сухое нізкае кустаўё. Яго разлапістае голле распаўзалася ад каранёў ва ўсе бакі. Кожны куст пераплятаўся галінамі з суседнім, ствараючы лапіны суцэльных зарасцяў няпэўнага бляклага колеру. У астранаўтаў гэтыя зарасці выклікалі асацыяцыі са злаякаснай пухлінай Сівых Гор. Яны знаходзіліся на дзвесце трыццаць пятым парсеку ад сузор'я Дзевы, калі стартаваць ад Спіка ў накірунку Весты. Там калісьці раскашавала база з турысцкімі гатэлямі і штучнымі аазісамі, пакуль аднойчы ў Сівыя Горы не ўрэзаўся метэарыт. Яго жалезнае, радыеактыўнае цела, пакідаючы за сабой доўгі шлейф з агню і пары, увайшло ў Сівыя Горы імкліва і лёгка — як уваходзіць квантавая іголка ў цюбік пайкавай пасты... Базу знішчылі, а супрацоўнікаў і касмічных валацуг, што засталіся жывымі, размеркавалі па анкалагічных цэнтрах. Цяпер на штурманскіх картах Сівыя Горы пазначаны асобным кодам, які засцерагае астранаўтаў ад наведвання гэтай планеты, біёлагі змагаюцца з жахлівай хваробай Сівых Гор: цёмнымі плямамі пухліны з сіняватым налётам, якія пастулова ператвараюцца ў незагойныя язвы.

Астранаўты не ведалі, што ў нейкі момант яны падумалі пра адно і тое ж. Яны ішлі моўчкі, на адлегласці двух-трох метраў, напаўразвярнуўшыся адзін да аднаго спінамі; чорныя рулі плазмераў старанна сачылі за наваколлем. "Напэўна, тут хвалявалася мора", — падумаў адзін астранаўт, які ішоў крыху паперадзе другога, і скалануўся ад унутранага халадку, калі яўна пачуў плёскат хваляў. Праз хвіліну бакавым зрокам ён згледзеў, як страпянуўся яго напарнік. І сапраўды, тая даліна, на якой яны апынуліся, вельмі нагадвала марское дно. А можа, астранаўтам толькі гэтак падалося? Магчыма... Яны асцярожна рухаліся наперад, і колкія галіны не даставалі ім нават да каленяў. Воддаль, на невялікім пагорку, паблісквaючы круглым бокам, быццам вялікая цыгара, ляжаў карабель. Яго радары асачылі на планеце вельмі моцны згустак энергіі — упаравень энергіі цывілізацыі. Але чамусьці гэтая частка сусвету павольна памірала. Колькі ёй засталося аганізаваць бляклай знічкай у халоднай пустоце, пакуль паверхню не сцісне празрыстым панцырам ледзяная скарынка? Адзін, два касмічныя гады?..



Радары ўпарта ляманталі. І астранаўты наўмысна адключылі іх, каб знайсці якоесьці рашэнне. Пільныя прыборы змоўклі, і раптоўная цішыня ў рубцы навалілася на плечы невыносным цяжарам. Карабель закружыў вакол планеты таўстаскурай жывёлінай, а яго гаспадары да болю ў вачах угдядваліся ў ілюмінатары фотакамераў. І тут заміргалі ружовыя дэтэктары на серабрыстых касцюмах экіпажа. Дэтэктары мелі невялікую магутнасць і рэагавалі на жывых істот пры абследаванні паверхні. Праз хвіліну карабель застыў над шырокай далінай на вышыні некалькіх кіламетраў. Ён прайшоўся над раёнам, дзе рэагавала ружовае святло, і мякка лёг на гарачы пясок. Экіпаж узброіўся плазмерамі і праз шлюзавы адсек выйшаў на паверхню...

"Ты, мой любы камандзір, камандзір, камандзір, падары мне свой мундзір — падары мундзір!" — астранаўты спыніліся разам. Штосьці ім падалося незвычайным і штосьці іх насцярожыла яшчэ больш. Гэтая песня, якая, быццам вогненная камета, пранеслася ў галаве кожнага, пасварыла іх у правінцыйным шынку "Піва Дыназаўра", дзе экіпаж адпачываў напярэдадні старту. Тады, пад модны шлягер, які ўжо добра паспеў надакучыць, у залу быццам уплыла чарнявая прыгажуня. Яна выконвала нейкі танец на тэму космасу і захавання асобы. Дзяўчына прыглянулася астранаўтам, і яны яе не падзялілі. Назаўтра збянтэжаныя і крыху напалоханыя абодва прыбеглі да псіхіятра, які быў іх добрым сябрам. Ён згадзіўся адключыць гіпнозам учарашні выпадак з іх памяці — стрэліў у падсвядомасць кожнага імпульсам карабельнага кода: "Ты не маеш права гінуць!"... Камп'ютэрны тэст перад палётам астранаўты здалі.

"Падары мундзір!" — зноў прагучаў абрывак песні. Астранаўты павярнуліся адзін да аднаго, быццам два бліскучыя галавасцікі. Кожны ўспацеў пад празрыстай бурбалкай скафандра і ў кожнага напагатове быў узведзены плазмер. Нейкае імгненне яны стаялі і быццам абрыўкамі нямога кіно ўспаміналі хмельную валтузню на бруднай бамбукавай падлозе шынка. І гэтак жа, як і тады перад бойкай, у аднаго пачалі ўздрыгваць на пашчэнках жалвакі, а ў другога да пераносся збегліся жорсткія маршчыны. Наўмысная смерць на невядомай планеце пакідала амаль незаўважныя сляды і здымала падазрэнні з таго, хто заставаўся ў жывых. Чамусьці гэтая думка прыйшлася да спадобы абодвум. І невядома, што здарылася б, калі б нечакана не міргнулі чырвоным вокам дэтэктары. І тады дзве постаці ў серабрыстых касцюмах востра адчулі, што для гэтага месца галактыкі яны вельмі чужыя. Астранаўты развярнуліся і прыселі, выставіўшы перад сабой зброю. Цяпер з нізкіх кустоў тырчэлі толькі скафандры і плечы. Навокал нікога не было, але з гэтым не хацелі пагаджацца дэтэктары. Астранаўты асцярожна падняліся і пачалі прыглядацца да кустоўя. І калі з аднаго боку ледзь заўважна варухнуліся крывыя галіны, чорныя рулі рэзка тузануліся ўніз і застылі ў напружаным чаканні. Спачатку з кустоў паказалася прадаўгаватая пыса з чорнымі пацеркамі вачэй, пасля выпаўзла ўся істота. Густая капа доўгіх іголак на спіне нагадвала дзікабраза ці вожыка. Калі да яе нахіліліся два засяроджаныя твары, істота чмыхнула і схавала пысу пад калючкі, — напэўна, дала зразумець, што ў яе няма агрэсіўных намераў. Адзін астранаўт распрастаўся і пачаў насцярожана азірацца. Другі паспрабаваў дакрануцца да істоты. Яму падалося, што яна ў чаканні дотыку напружылася кожнай іголкай. Ён паклаў руку на калючае паўшар'е, тут жа бясшумная фосфарна-сіняя маланка працяла далонь і абвіла пальцы. Астранаўт ірвануў руку на сябе і пачуў прыглушаны стрэл. Гэта зламалася адна з іголак, за якую зачапілася пальчатка камбінезона. Перад вачыма астранаўтаў раптам паплылі каляровыя малюнкі. Акурат як на выставе ў дзіцячым садку касмічнага цэнтра: выцягнутыя твары з высокімі брывямі, белыя рамонкі, чырвоныя збудаванні невядомай і нелагічнай на першы погляд архітэктуры... Гэтыя карцінкі пастулова пачалі ажываць і перад шклом скафандраў яскравымі ўспышкамі азначыўся цэлы перыяд жыцця нейкай абшчыны ці воласці...

Зялёнае мора млела ў салодкай дрымоце і лянiва напаўзала на бераг шапатлівымі хвалямі. Дзве жанчыны стаялі каля самай вады, кудысьці напружана ўглядаліся. За іх плячыма чырвонымі гмахамі ўзбіралася на пагорак селішча. Лёгкі вецер перабіраў доўгія чарнявыя валасы адной і заблытваўся ў белых пышных пасмах другой. Жанчыны былі апрануты ў празрыстыя балахоны і праз матэрыю праглядваліся правільныя абрысы загарэлага цела. Жанчыны кагосьці чакалі, бо калі на гарызонце з'явілася ледзь заўважная кропка, твары іх пасвятлелі. Праз хвіліну да берага падплыла круглая ўвагнутая пласціна. З яе сышоў мужчына ў блакітным балахоне, ад якога сыходзілі празрыста-імклівыя промні. У мужчыны на руках апынулася істота з доўгімі зіхатлівымі іголкамі. Чарнявая жанчына расчыніла шкатулку, якую дагэтуль трымала ў руках, а бялявая дастала адтуль бліішчастую іголку — такую ж, як у істоты. Мужчына ўзяў яе і ўваткнуў да астатніх, злавіўшы рукой сіняваты зігзаг, пасля ступіў на пласціну і яна павольна паплыла да гарызонта.

Жанчыны павярнуліся і пайшлі да селішча. Праз імгненне пачарнела неба, а мора застыла, быццам халодны воск. Аднекуль прыляцелі едкія пранізлівыя вятры — і рознакаляровая галька на ўзбярэжжы адразу выцвіла. Чырвоныя збудаванні селішча пачалі асыпацца шэрым пяском...

Астранаўты сядзелі і няўцямна глядзелі перад сабой. Побач валяліся непатрэбныя плазмеры. Ачуняўшы, экіпаж схаваў зброю, з хваляваннем, у чатыры рукі, падняў калючага напатканца і панёс да карабля. Дзве постаці ў бліскучых касцюмах былі падобныя да дзвюх рыбін — тых, што калісьці, даўным-даўно, на адной з планет ужо вынеслі розум з мора на сушу. Але там розум быў яшчэ недасканалы і неразвіты...

Карабель лёгка адштурхнуўся ад планеты, якая пачынала страчваць сваё прыцяжэнне, і бела-агністай стралой увайшоў у чарнату космасу. Цемнаскуры астранаўт сядзеў у рубцы за штурвалам, адбываючы сваю змену, пакуль напарнік драмаў у апачывальні. Незвычайны госць сядзеў пад шкляным каўпаком. Бартавыя камп'ютэры ўтаропіліся на яго круглымі, блакітнымі маніторамі і ціха шчоўкалі. Астранаўт крыху расслабіўся і пачаў гадаць, якую ж узнагароду яны атрымаюць, калі ўсё абыдзецца добра ў гэтым рэйсе. Але тут рэзка і востра, быццам хтосьці адным узмахам увагнаў у патыліцу метанавы цвік, у яго вушах прагучала: "...камандзір, камандзір, камандзір, падары мне свой мундзір...". А ўслед за гэтым п'яны твар напарніка сцятымі да белых плямаў вуснамі закрычаў перад самымі вачыма: "Ты, малпа! Чарнамазая малпа!!. Не лезь да маіх дзевак!" І чарнаскуры астранаўт забыў раптам, дзе ён знаходзіцца: ці то ў караблі, ці то ў шынку з такой з'едлівай назвай "Піва Дыназаўра". Ён павольна, быццам у сне, замяніў плазмеру энергаблок і ўвайшоў у апачывальню, шчыльна прычыніўшы за сабою дзверы. Калі там коратка і дробна сакатнуў плазмер, на верхнім паверсе пульта, быццам бы сама сабой, утапілася вузкая чырвоная клавіша. Апачывальню растрыбушаным ашмёткам выкінула ў адкрыты космас карабельная катапульта. І белыя прасціны ў чорнай пустаце яшчэ доўга даганялі карабель, усё роўна як забытыя кімсьці харугвы. А ў рубцы разам лопнулі ўсе маніторы і на мяккі ворс падлогі ціха асыпаліся крывыя аскепкі шклянога каўпака...

* * *

Аднойчы на арбіту Зямлі з пазашкаленымі радарамі і безупынным кодавым сігналам выйшаў даўні карабель, якога Яна стамілася чакаць. Карабель зрабіў некалькі імклівых віткоў, не адказваючы на запыты касмапортаў і, калі яго паспрабавалі пераняць, увайшоў у раён Чорных Прорваў і знік там. Толькі ў эфіры яшчэ доўга, незразумела чаму, гучаў кодавы сігнал, які цяпер маладыя пілоты нават не вывучаюць. А Зямля, як і раней, засталася чакаць вяртання даўняга карабля сярод шматлікіх вяртанняў іншых, шмат найноўшых караблёў, у спадзеўцы, што калісьці зноў пачуе ў эфіры: "...я не маю права гінуць... я не маю права гінуць... я не маю права гінуць...".

### III

Лу-1 і Лу-2 сядзелі ў не вельмі элегантным і камфортным шынку "Метэарытны блюз" і смакталі кіславатае піва. Апошнім часам Кіраўніцтва Касмічнага Цэнтра зрабіла добрай традыцыяй перад складанымі і далёкімі палётамі адпраўляць пілотаў на кароткачасовы адпачынак у правінцыю. Такія адпачынкі ў далечыні ад шумнай мітусні і забетанаваных вуліц дапамагалі астранаўтам набываць душэўны спакой і пранікацца большай любоўю да сваёй планеты. Магчыма, так думалі ў Цэнтры. Але браты Лу-1 і Лу-2 ірваліся ў палёт і былі з гэтым не згодны. Яны рыхтаваліся на караблі-амфібіі даследаваць малавядомыя раёны Чорных Прорваў. Пакуль там бывалі толькі лічаныя астранаўты. Падрыхтоўка да старту заканчвалася на вачах, калі ім выдалі два рэйсавыя квіткі і літаральна ўвапхнулі ў аэрафак. Тут, на Канарскіх астравах, ім падалося вельмі сумна. Увесь час яны сядзелі ў "Метэарытным блюзе", абстаўленыя півам, і не зводзілі вачэй з электроннага таймера. Ён адлічваў хвіліны іх правінцыйнага арышту... Калі загучаў папулярны матыў, браты не звярнулі на яго асаблівай увагі, хоць і ўспомнілі, што чырванашчокі гаспадар шынка сёння абяцаў ім нейкі сюрпрыз. Але праз хвіліну Лу-1 і Лу-2 ледзь не праглынулі адным разам па піўному пакету. У залу ўбегла лёгкая і спрытная бландзінка. Святло патухла, і ў раптоўнай цемнаце толькі лыпаў здзіўлены таймер, а ў скрыжаванні двух пражэктараў скакала дзяўчына. Пышныя бялюткія валасы калыхаліся ў такт яе рухаў, узрываліся безліччу залацістых іскрынак, калі яна грацыёзна падскоквала і прысядала. Магутнае святло не адпускала яе, і праз тонкую вуаль праглядваліся плаўныя абрысы маладога, гнуткага цела. Калі скончылася музыка, калі ўспыхнулі нечакана колкія неонавыя лямпы, браты толькі згледзелі, як у дзвярным праёме знікла тонкая вуаль. Лу-1 зірнуў на Лу-2 і ўбачыў на яго твары разгубленасць і захапленне. Лу-2 сустрэўся позіркам з братам і паспеў заўважыць у яго вачах салодкае прадчуванне флірту. Пілоты павольна ўсталі, не зводзячы адзін з аднаго позіркаў і адкінулі ўбок стол. Піўныя пакеты з ціхім шапаценнем пакаціліся па бамбукавай падлозе. Браты не згодны былі саступаць адзін аднаму...



## Дзмітрый КАЛМЫКОЎ

### ЗОРКА

Ляжу ля вогнішча і гляджу на неба. Тут, за пагоркам, ціха, а паверсе гуляе вецер, хістаючы бярозы, што падобны на растрапаныя вялікія мётлы. Мятуць яны і мятуць халоднае зорнае неба. Вунь пакацілася адна зорка з тых, што яшчэ свецяць...

Вогнішча прагарэла. На гарачых вуголлях танцуюць жоўтыя і сінія язычкі полымя, шыпіць і дыміцца абгарэлая сырая дошка.

Закрываю вочы і слухаю, як хвалямі ходзіць па лесе вецер. Захрабусцела пад нечымі нагамі лісцё. Хтось ідзе сюды. Хто б гэта? Адкрываю вочы — нікога. Толькі вецер. А пачуццё, што нехта чужы — побач, засталося. Зноў заплюшчваю вочы.

Халодны цяжкі ліст лёг мне на твар, быццам дакрануліся нечыя пальцы...

Жалобна войкнула за ракой птушка. Звалілася ў касцёр сухая галінка. Усчаўся шэлест сярод прыбярэжных кустоў, заплёскалася вада ў рацэ. Прамень майго ліхтарыка заскакаў па кустоўю, па траве, па вадзе — нікога. Гэта, відаць, вецер заляцеў за пагорак. На перакаце шуміць, пеніцца вада, танчыць вятрыска ў сухім трыснягу.

Цяпер я ўжо не засну. Кідаю ў вогнішча яшчэ колькі галінак, дзьмухаю на вугалькі. Галінкі ўспыхваюць з лёгкім хлапком. Цёплае добрае полымя цягнецца лізнуць мне твар, я не даюся, не прымаю яго пяшчоты.

Ноч адступіла за куст арэшніку. Вогнішча страляе туды чырвонымі пырскамі. Я паціраю застылыя ад халадэчы рукі. Мне зноў цёпла і ўтульна.

А з цемры даносіцца знаёмае шапаценне лісцяў, частае шорганне, хруст. Напэўна, гэта ўсё тая ж зорка, што скацілася з халоднага неба, каб пагрэцца ў восеньскім пажары, шастае па наваколлі.

## *Наша хроніка*

Літаб'яднанне "Крыніцы"- папоўнілася новымі сябрамі. Гэта – Генрых Кутас, Наталя Русецкая, Сяржук Патаранскі, Максім Капыловіч і Аксана Забаштанская. І ім да спадобы прыйшліся не толькі водар нашай (цяпер ужо і іхняй) гарбаты, а і новыя сябры, гутаркі.

Ужо адбыўся ўрачысты момант запісання іх у дзённік нашай суполкі.

Ну а творы? З вершамі Наталі Русецкай і Генрыха Кутаса вы, шаноўныя чытачы, ужо мелі магчымасць пазнаёміцца ў папярэднім літвыпуску "Крыніц". Вершы ж астатніх сяброў рыхтуюцца да друку.



Сабор Аляксандра Неўскага ў г.Пружаны.

Мал. Марысі КУЛЕЦКАЙ.



## Вітаўт ЧАРОПКА

### АБРАЗКІ БЕЗ НАЗВАЎ

* * *

На крыжы дарог светапабудовы жыццё распнула ружу вятроў, забіўшы ёй у далоні гострыя цвікі рэалізму. Ці будзе адраджэнне? Мы прагнем азарэння. Як прагне цнатлівая ноч стаць маці ды нарадзіць тое адзінае слова мудрасці, імя якому ад Бога будзе дадзена. Дзе вы, прынцы крыві? Да знямогласці на вуснах абкусалі пёры, ахвяруючы паперы прыгожыя славесы пра вашыя прыгожыя пачуцці, і не адзін не адважыўся на грэхападзенне. Ноч расплачацца на плячы часу вершамі, і вы кінеце іх пад вокны каханых. А як жа нялюбым? Хто ім хаця валошак падорыць? Такая вось дыялектыка слоў, дыялектыка сноў, дыялектыка мрояў, дыялектыка метамарфозаў. Як трызненне паэта "Я не самотны...", як пошчак капытоў імклівых дзён (куды везяце вы ноч?), як паветраны замак, што не вытрымаў прыземленасці нашых крокаў, як навагодняя паштоўка сярод году старога. Ды ўсё вельмі празаічна канчаецца, нават мары – як лёгка яны, як нечакана знікаюць у палёце знічак за мяжой цемры, нават каханне, што п'есай-фарсам для многіх дзейных асоб у памяці застанецца, пакуль не апусціцца заслона апошняга званка, нават святло (заплюшчы вочы – і цемра, цемра), нават птушка ў небе абпаліць крылы свае аб два агні на моры, а трэці агонь – сцяна (куды ёй, бяскрылай?), як бярозавы ўзлесак – падарунак залатых яблыкаў для Сонца. Лёгка, нечакана, само сабой. Нават памяць (цнатлівая ноч забудзе пра надзеі свае). Этымалогія слоў, разгадка сноў, крохкасць мрояў, вычварнасць метамарфозаў.

* * *

Штораніцы стары павольна крочыць па апусцелым садзе, які даўно не ведае клопату яго ных рук. Ён ідзе да альтанкі, якую здавён называюць "Развітанне з Каханнем". Там на мармуровай лаве нехта забыў кнігу. Вецер гартае яе пажоўклыя старонкі. Хто яе чытаў? Хто і калі забыўся? Пра што распавядае яна? Кніга занадта цяжкая для знямоглых старэчых рук, і падсляпаватыя вочы не могуць прачытаць ніводнага радка. Яны, як мінулыя гады, зліваюцца у адну шэрую плынь без усялякіх знакаў ды літараў. Мо, яна пра подзвіг? А, мо, пра каханне? А, мо,яна пра яго, пра таго, хто зламаў рыцарскую дзіду аб сваю наіўнасць, якая, нібы вятрак, перамалола дні юнацтва ў пустую славу-забаву. Ды ў дзе тая жанчына, з імем якой жыў ён? Ці варта было за яе ўсё мяняць у жыцці?

Увечары сюды, у альтанку, прабіраюцца Каханы і Закаханая. Ён робіць выгляд рыцара, распавядае Ёй, які ён знаходлівы, мужны, гераічны. Яна няўважліва слухае ЯГО, гартае кнігу ды чамусьці сумна ўсміхаецца. ЁН злуецца: што яна знайшла ў гэтай кнізе? О, гэтая незразумеласць. У чыіх душах болем яна адгукнецца? Хто розумам сваім яе спасцігне?

Мы ў невядомую нам кнігу, як у люстэрка, глядзімся. У юнацтве самаўлюбёна, у старасці ўжо не пазнаем сябе. Толькі Вецер, які, як ДУХ, лунае над зямлёй, толькі ён адзіны чытае гэтую кнігу. Ён не знойдзе ў ёй сваю сутнасць, сваё значэнне, сваё аблічча. Уначы вецер, як цень, блукае ля вокнаў дома, дзе мяне любяць, але дзе я чужы, ды зазябленым п'яным голасам пра нешта распавядае сам сабе. Я яго не разумею. А мудры стары? Моцны яго сон. А закаханыя? Ім не да гэтага...

* * *

Чалавек, які думае, як і я, які смяецца маім смехам і плача маімі слязьмі. Чалавек, які любіць маім сэрцам і пакутуе маёй душой, хто ён? Мы так падобны адзін да аднаго ды разам з тым такія розныя. З таго берага, дзе я ёсць, дзе яшчэ спадзяюся быць, праз туман на лёгкай ладдзі перапраўіўся на гэты бераг, дзе мяне ўжо няма. Тут засталіся мудрыя старыя, якія ўсё і пра ўсіх ведаюць, і пра мяне таксама. Іх памяць, як талісман, захоўвае іх, ад чаго мы не змаглі ўсцерагчыся. Рукі іх пахнуць зямлёй. Вочы іх бачылі тое, што мне і не снілася. Але на гэтым беразе я не сустракаю ні іх, ні іхніх слядоў, і іхніх могілак не знайшоў. Я выйшаў зноў на бераг. Няма ладдзі. У люстры рачных водаў пісьмёнамі з далёкіх гадоў адбіваліся зоры. Я чытаю гэтыя пісьмёны. "Чалавек, які думае, як і я, які смяецца маім смехам і плача маімі слязьмі. Чалавек, які любіць маім сэрцам і пакутуе маёй душой, – гэта ты",– прачытаў на вадзе. Дзесьці далёка зарыпелі дзверы. "Гэта выйшлі з пакояў апошняга твайго суда непадкупныя суддзі",– казалі мне пісьмёны. "Устаць, суд ідзе!"– Я падняўся. Цемра навісла за маёй спінай, Крокі непадкупных суддзяў набліжаліся да мяне.



## Ігар СІДАРУК

* * *

Аб азёрную роўнядзь
захад
размажджэрыў сваю галаву.

* * *

Ад цела твайго —
пах прывялых вяргіняў і мёду.

Гэты верасень, такі кароткі...

* * *

Ля ног срэбраскурай таполі
дрэмле сцяражка
вецер — стары валацуга.

* * *

Чарга ў парку...
Пачым сёння Божае слова,
святар?

### ВЕРАСЕНЬ

Твае валасы парыжэюць,
бы на кветніку астры.

Верасовае сонца...

* * *

Эратычнасць чорных панчохаў
робіць цябе
да адчаю далёкай!..

* * *

...Не даведацца ўжо,
аб чым прасілі,
чаго чакалі
лісты апошнія ліпы.

* * *

На ялінцы два цацачныя слонікі
цяруцца бакамі.
Калядная Афрыка.

* * *

Крывавы захад:
сарваныя гронкі рабінаў
і спляжаны снег.

* * *

Учора з вёсні вярнуўся ліхтар.
І стаіць ля фантана ў саламяным брылі,
і плявузгае семкамі...

* * *

Кожны восеньскі ліст ад цябе —
бы зрэзаная хрызантэма.

Паштовая скрынка пахне дажджом...

* * *

Прыгожыя рукі бярозы
лашчаць вечар
вышэй лакаточкаў.

* * *

Хтосьці ноччу пагрукаў у шыбу,
а я на ганак так і не выйшаў.

Раніцою пад вокнамі
дарэмна адшукваў сляды.

### ВОСЕНЬСКАЕ СПАТКАННЕ

Разам з апошнім лістом
упадуць на ваду
твае абарваныя пацеркі.

### ЭРАТЫЧНАЕ

На падлозе бялюткія трусікі —
бы два прыціхлыя
начныя матылькі...

* * *

Надвячорак,
сыграй маёй маме
на чалесце сваёй мінуэт...

### РАЗВІТАННЕ

Пайшла ціха,
баючыся спалохаць
шоргат прыцемку, мроіва, захад...

Доўга гляджу на сонца.

У надвячорка
вочы поўныя слёз.

* * *

Блукае па горадзе
пакінутая жанчына.

І сумуе садоўнік: знікла
яго белая яблыня...

*Рада "Крыніц" працуе па панядзелках з 15 да 20 гадзін у рэдакцыі часопіса "Першацьвет" (Дом друку, праспект Ф.Скарыны. 77, пакой 112, першы паверх). Тэл. 32-56-53.*

*Літаратурны выпуск "Крыніцы" вядзе пісьменнік Алесь МАСАРЭНКА.*

Падпіска-93. Наш індэкс 63129

# МАРЫЛЯ РАДОВІЧ:

# агрэсіўная і раўнівая

*Аднаго разу Шарлю Азнавуру, які быў на фестывалі ў Сопаце ў якасці госця, на прэс-канферэнцыі было зададзена пытанне: як вы ставіцеся да таго, што ўжо выйшлі, як кажуць, з моды? "Упершыню чую пра гэта ад вас, мадам," — адказаў Азнавур, які заўсёды спявае пра тое, што "ў яго стылі". Калі б такое пытанне задалі Марылі Радовіч, слава якой пачалася якраз у Сопаце, яна змагла б адказаць на яго такім жа чынам, з тым жа правам.*

*Ці модная Мірэй Мацье ў Францыі? А Фрэнк Сінатра ў Амерыцы?*

*"Рознакаляровыя кірмашы" ў сярэдзіне 70-х спявала не толькі ўся Польшча. Марыля Радовіч была тады адной з самых модных зорак эстрады. Сёння яна па-за модай, але "зоркай" засталася.*

На адным баку пласцінкі я прачытала: "Гаварылі яму, што ён нягоднік, гаварылі яму, што ён мярзотнік", а на другім — захаплялася прыгажосцю Закапанэ. Гэты дыск выпусціў мой англійскі імпрэсарыо. Ужо была дамоўленасць на маё працяглае замежнае турнэ з вельмі модным у той час ансамблем "Beach Boys". А мой тагачасны жаніх папрасіў мяне, каб я адклала свой ад'езд і правяла з ім два тыдні. Менеджэр пакрыўдзіўся. Выступленні не адбыліся. З жаніхом я так і разлучылася. Здараюцца ў жыцці і такія недарэчнасці.

Я жыву пачуццямі. Нялёгка, аднак, сустрэць мужчыну, каб менавіта для цябе — і на ўсё жыццё. Вось, здаецца, ён — той самы і ёсць. Але калі даўжэй пабудзеш побач з ім у розных сітуацыях, то выяўляецца розніца поглядаў, характараў, звычак, ад якіх часам цяжка адмовіцца. І аднойчы партнёры прыходзяць да высновы, што існаванне становіцца немагчымым. У бацькі двух маіх большых дзяцей ніколі не было дастаткова часу на сямейныя справы. Ён заўсёды быў "напярэдадні", "у час" ці "пасля" прэм'еры. А ў час сумеснага адпачынку з галавой аддаваўся свайму захапленню — рыбалцы ад раніцы да вечара.

Цяпер, узброеная ўласным вопытам, я ведаю, што трывалая сувязь — сінтэз сталасці, цярплівасці і мудрасці двух людзей. Каханне, як і ўсё ў жыцці, патрабуе пастаяннай увагі, нават тады, калі ўсё складваецца найлепшым чынам. Толькі б не паддацца прозе жыцця!

## За сталом

Калі мой муж вяртаецца вечарам з работы і не застае мяне дома, то адразу становіцца змрочным. Падоўгу не бываючы дома, ён хоча, каб яго чакалі, былі яму рады. Мужу прыемна, калі я гатую нешта смачнае на вячэру. Ён любіць сядзець са мною за сталом хоць цэлую гадзіну. Увесь дзень яго паглынае інтэнсіўная работа. Ён — інжынер-механік, мае ўласную фірму. Прачынаецца першым, калі ўсе яшчэ спяць. Ён славалюбны і паслядоўны ў рэалізацыі сваіх планаў. Сама ведаю, колькі часу патрабуе яго прафесія, калі хочаш, каб цябе заўважылі.

Раней, калі Анджэя яшчэ не так зацягнула работа, ён з ахвотаю суправаджаў мяне ў замежных гастролях. Мы разам гулялі па Нью-Йорку, Вене, Лондану, Празе, Іерусаліму, Пекіну. Нягледзячы на тое, што я была занятая, у нас заўсёды было дастаткова часу для сябе. Цяпер ён непараўнальна больш гадзін праводзіць каля сваіх металічных канструкцый. Свята для яго — сапраўдная пакута. Нават па нядзелях імчыцца ў майстэрню паглядзець, ці на месцы толькі што ўсталяваныя машыны.



Адна з маіх адмоўных рыс, прызнаюся, — страшэнная раўнівасць, нават агрэсіўнасць. Не вытрымліваю позіркаў майго мужчыны ў бок іншых жанчын. Аднак я эстэтка і згодна, што маладосць — цудоўная. А муж... не дазваляе мне нават патанцаваць з кім-небудзь іншым, хаця сам не лепшы танцор. Калі-нікалі я выцягваю яго на паркет. Прыкладаю ўсе намаганні, каб быць лаяльнай, ставіцца да мужа з разуменнем.

Ёсць у нас і агульныя захапленні. Абое любім жывапіс, гульню ў тэніс, выдатную кухню. У госці выбіраемся зрэдку. А калі ўжо і выпадае вольны час, то мы імкнёмся правесці яго разам.

## Рамантычна

Першы раз у жыцці я — афіцыйная жонка. І то параўнальна нядаўна. Мае папярэднія саюзы не былі змацаваны пячаткаю закона. Насуперак таму, якія вілы прыпісвала мне нядобрая слава, жыллёвыя ўмовы былі ў мяне занадта сціплыя. Пасля страшэнных нягод "разбагацела", нарэшце, атрымаўшы два пакоі з кухняй на Урсынаве — у адным з далёкіх да цэнтра Варшавы раёнаў. Перад тым, як пазнаёміцца з Анджэем, жылі мы там учатырох: я з двума дзецьмі і неацэннай Крысцінай, якая іх даглядала. У час маіх працяглых гастроляў прыязджала на дапамогу маці — паклапаціцца пра ўнукаў. Калі нарадзіўся сын Ендрусь, стала зусім няўтульна. Каб спакойна пагаварыць, мы ішлі ў... машыну. А жадаючы разам адпачыць, зрэдку адасабляемся ў гасцініцы, што таксама рамантычна. Толькі ў рэгістратуры здзіўляліся, калі мы ўпісвалі адзін і той жа адрас.

І вось наша жыццёвая прастора павялічваецца. Нарэшце, змагу я распакаваць усё, што за шмат гадоў з-за недахопу месца захоўвалася ў скрынках і чамаданах. Мару аб тым, каб пераглядзець, прывесці да ладу, размясціць па паліцах сямейныя фота і рэліквіі, сувеніры і падарункі, якія я атрымала ў час сваіх вандровак. У час падарожжаў і ў адпачынку я ніколі не растаюся з фотаапаратам. Магчыма, калі-небудзь і падрыхтую выставу, да чаго і заклікаюць мяне мае знаёмыя і нават майстры фотасправы.

Цяпер нам будзе жыць больш зручна. У кожнага — свой куток. Кася, наша баламутка і растропа, ужо не будзе цягнуць у брата што-небудзь са школьных прылад — яна заўсёды губляе алоўкі і ластыкі, а Ясь — хлопец акуратны. У Касі, магчыма, як і ў мяне, стыхійная душа артысткі. Таксама марыць стаць спявачкай. Кажуць, што гэта пераходзіць ад маці да дачкі.

## За рулём

Аднак, перш-наперш я задаволена першым у жыцці пакоем-гардэробам. Мне будзе лягчэй "пераапранацца" ў Марылю Радовіч, як некаторыя гавораць аб маёй манеры апранацца. Паразвешваю ўсё, што ў мяне ёсць.

Люблю моду. Манерай апранацца можна вызначыць не толькі свой стыль, характар, але таксама і вызначыць уласныя адносіны да свету. З задавальненнем і цікавасцю вывучаю часопісы мод. Наведваю магазіны ў розных краінах, каб нагледзець што-небудзь незвычайнае. Падбіраю да простай рэчы які-небудзь смешны капялюш ці экстравагантную рысу. Купляю толькі рэчы. Тканіны, якія купіла ў хвіліны слабасці, гадамі ляжаць у шафе і толькі займаюць месца. У мяне няма ўласнай краўчыхі. Ад бабулі засталася мне старая машынка "Зінгер", якую прывезлі з роднага Вільнюса. Але шыць не навучылася, і засталася яна толькі каштоўным сэрцу ўспамінам.

У апошні час толькі і думаю аб упарадкаванні дома. Не хачу набіваць яго мэбляю, якой і так няма. Нарэшце, спраўдзяцца мае шалёныя ідэі. Што за жыццё без фантазіі! Напрыклад, надумала зацягнуць падлогу белымі паласамі, але муж на гэта рэагуе скептычна: сцвярджае, што ўвесь дзень цяпер толькі і трэба рабіць, што іх чысціць.

У невялікім садочку каля дома насадзіла некалькі кустоў і дрэваў. Мару, каб былі ў мяне сабака ды кот.

Руцінны адпачынак заўсёды мне хутка надакучваў і здаваўся толькі змарнаваным часам. Аднак чаго ні зробіш ад любві да дзяцей. Вось і на гэты раз была з імі, як звычайна, у лесе на Мазурах. Рабіла пакупкі, гатавала, прыбірала — са спакоем і вытрымкай стоіка.

Адно з самых маіх вялікіх задавальненняў у жыцці — кіраваць машынаю. Здаецца, магу праехаць без перапынку паў-Еўропы. Калісьці ліхачыла. Было ў мяне і некалькі дарожных здарэнняў і таму цяпер вяду машыну вельмі асцярожна, асабліва калі вязу дзяцей. Тады павялічваецца і пачуццё адказнасці.

## Рызыка

Анджэй задаволены, калі я дабіваюся поспехаў. Разам з тым не разумее, чаму я займаюся гэтай справай цяпер, калі час для эстрады асабліва цяжкі. Канцэртаў мала, заробкі мізэрныя. Ці не лепш сядзець дома? Навошта гэтыя стрэсы...

А я б не ўседзела дома і нават не захацела абмяжоўвацца толькі запісамі. Сапраўдны сэнс маёй прафесіі я адчуваю тады, калі спяваю непасрэдна для гледача. Паспяховыя канцэрты прыносяць задавальненне. Людзі жыва рэагуюць, суперажываюць, мне перадаецца іх хваляванне. А калі што-небудзь не атрымліваецца, то гэта для мяне яшчэ большы стымул для новага "захопу" публікі. Таму што эстрада — гэта бесперапынны пошук і спаборніцтва.

Я ўжо прызвычаілася рызыкаваць. І гэта ўсё больш прыцягвае мяне ў маёй прафесіі. Нярэдка я асэнсавана парываю з вобразам, да якога прызвычаілася публіка. Раблю штосьці насуперак сабе, ніколі не ўпэўненая ў выніках. Зрэдку частка маіх прыхільнікаў нават адварочваецца ад мяне, але адначасова з'яўляюцца новыя, у чым я зацікаўлена. Падтрымка ў такой прафесіі проста неабходна.

А ў Польшчы, дзе яшчэ не вельмі распаўсюджаны шоу-бізнес, выканаўца сам павінен рэалізоўваць свае ідэі. Знаходзіць кампазітараў, аўтараў, аранжыроўшчыкаў, харэографаў, збіраць музыкантаў на рэпетыцыі, шыць касцюмы, шукаць залы для выступленняў. Напакутуешся, пакуль зробіш праграму, а паказаць яе, напрыклад, па тэлебачанні няпроста: сёння кіраўніцтву ТБ лягчэй "украсці" што-небудзь дарма праз спадарожнікавую антэну.

У 1987 годзе адзін амерыканскі астролаг прадказаў мне кар'еру ў оперы. Калі ласка! Тэлефонны званок і — захапляючая прапанова выступіць на сцэне Вроцлаўскай оперы ў ролі мельнічыхі Дароты ў "Кракавяках і гуралях". Першай рэакцыяй быў страх — ці змагу? Але адначасова гэта быў і выклік. Іншыя і музыка, і сцэна, і публіка, іншыя партнёры па сцэне, касцюмы.

Запісала дзве пласцінкі. На адной — кампакт-дыску — старыя папулярныя песні, на другой — пад назвай "Абсалютна нічога" — новыя. У нас жа цяпер капіталізм, выканаўца павінен плаціць за ўсё. Вось і плачу за студыю, музыкантам, а падрыхтаваны матэрыял прадаю фірме гуказапісу за грошы, якія не пакрываюць расходаў.

...А кожная прэм'ера заканчваецца заўсёды вялікім стрэсам. І яшчэ некалькі дзён апасля адчуваю вынік гэтага напружання. У жыцці ўвогуле стрымліваю сябе і стараюся быць цярплівай, але да пэўнага моманту. Не прылічваю сябе да тых, хто захапляецца ўласнай персонай.

Часопіс "Twoj STYL".

Ломка... Хто не прайшоў праз пекла наркаманіі, не ведае, што гэта такое, які гэта страшэнны боль.

Што ў нас робіцца для таго, каб выцягнуць з гэтай багны тых юнакоў і дзяўчат, якія ўжо адчулі "смак" смертаноснай спакусы, як засцерагчы ад яе іншых, хто яшчэ не запэцкаў крыві сваёй наркотыкам, расказвае галоўны псіхіятр Беларусі Уладзімір Уладзіміравіч ІВАНОЎ.



# НАРКАМАНІЯ: ХРОНІКА ЗАХВОРВАННЯ

— Наркаманы — гэта звычайныя людзі, а не якія-небудзь ізгоі і іх ні ў якім разе нельга выкідваць за борт жыцця. Наадварот, ім патрэбна наша дапамога, наша падтрымка. Многія з іх самі стараюцца вырвацца з ланцугоў наркаманіі.

Хворыя наркаманіяй рэгіструюцца як па лініі Міністэрства аховы здароўя, так і па лініі Міністэрства ўнутраных спраў нашай рэспублікі. Трапляюць такія людзі ў поле зроку часцей за ўсё ў стане ап'янення, прыняўшы занадта вялікую дозу наркотыку, часам хворыя самі звяртаюцца ў органы аховы здароўя. Так, за мінулы год узята пад назіранне 166 хворых наркаманіяй (з іх — сем падлеткаў). Зарэгістраваны 202 чалавекі, якія прымалі наркотыкі (але гэта страшэнная хвароба яшчэ не паспела іх "зламаць"). Для параўнання: у 1984 годзе гэтыя лічбы былі намнога меншыя: 94 чалавекі знаходзіліся пад назіраннем органаў аховы здароўя і 12 — зарэгістраваны ўпершыню. На сённяшні дзень узята пад назіранне больш чым 550 наркаманаў, дзесяць з якіх — падлеткі. Гэтыя лічбы, на жаль, не адлюстроўваюць сапраўднага становішча. На самай справе хворых наркаманіяй намнога больш. Як заўважыў У.У.Іваноў, на кожнага выяўленага наркамана прыходзіцца 9—10 такіх, хто застаецца за полем зроку медыкаў.

Праблема наркаманіі ўсведамляецца ўсімі, але зрабіць што-небудзь для папярэджання гэтай хваробы вельмі цяжка (можна нават сказаць, немагчыма) з-за катастрафічнага недахопу грошай. Як паведаміў Уладзімір Уладзіміравіч Іваноў, зараз становішча такое, што многія кіраўнікі органаў аховы здароўя рэспублікі выступаюць за скарачэнне наркалагічнай дапамогі насельніцтву (маўляў, нарколагі нікога яшчэ не вылечылі). А, між тым, на Беларусі няма ніводнага цэнтра рэабілітацыі наркаманаў. Калі два гады назад у рэспубліцы налічвалася шэсць тысяч ложкаў для наркалагічных хворых, то зараз — усяго дзве з паловай тысячы. Сітуацыя, як бачым, катастрафічная. Відаць, мы самі не хочам абараніцца ад наркаманіі. І гэта ў той час, як замежныя спецыялісты мяркуюць укласці 2,5 мільёна даляраў для развіцця рэспубліканскай наркалогіі, міліцыі і мытні (каб не дапусціць распаўсюджання наркаманіі за межы Беларусі).

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

P.S. Паводле неафіцыйных звестак органаў унутраных спраў нашай рэспублікі, прыток наркотыкаў у Беларусь за апошнія гады павялічыўся.

Мы – першая дзяржава СНД, дзе выяўлены вірус СНІДу сярод наркаманаў.

У мінулым годзе ад перадазіроўкі наркотыкаў у нас памерла восем чалавек.



У бюро дзяжурыў Павел Сіманаў

## Інфа-крым

### ЗАБОЙСТВА "ПА-СУСЕДСКУ"

Труп жыхара вёскі Калініна Крычаўскага раёна трыццацічатырохгадовага Яўгена Ц. быў знойдзены 26 верасня а сёмай гадзіне раніцы. Мужчына ляжаў насупраць сваёй хаты ў лужыне крыві. Дзве страшныя раны ад сякеры былі прычынай яго дачаснай смерці. А нанёс яму гэтыя раны, як потым высветлілася, сусед – слесар аўтобуснага парка № 3 Н., 1963 года нараджэння, раней тройчы судзімы.

Прычына ўсяму? П'янка. Піў часта і многа. Лячыўся ў ЛПП. Там пазнаёміўся з жыхаром Крычава, які даў яму адрас знаёмай жанчыны. Фёдар завёў з Кацярынай перапіску. Пасля заканчэння тэрміну лячэння, у жніўні 90-га, ён накіраваўся да жанчыны, і тая прыняла яго да сябе жыць. І дарэмна. Бо піў Фёдар як і раней. П'яны быў вельмі неспакойны, ганяў сваю сужыцельку вакол хаты. Так здарылася і ў той злашчасны дзень. Кацярына схавалася ад раз'юшанага сужыцеля на паддашку хаты, а той, схапіўшы сякеру, кінуўся на вуліцу яе шукаць. Тут яму і сустрэўся сусед...

Закончыцца следства, будзе суд. Забойца атрымае па заслугах. Ды толькі сям'я так і застанецца без карміцеля, а дзеці – без бацькі...




### НЕ ШАНЦУЕ РЭКЕЦІРАМ У КРЫЧАВЕ

5 верасня ў Крычаў прыехала група маладых і дужых мужчын з Магілёва. Сябар вазіў гасцей па горадзе на ўласным аўтамабілі. Аднак прыезджых больш цікавілі не гарадскія мясціны, а тугія бумажнікі рыначных гандляроў, якія па выхадных збіраюцца на пятачку ў цэнтры горада. Пасажыры – 30-гадовыя магілёўчане Л. і Б., нягледзячы на свой адносна малады ўзрост, прайшлі сур'ёзныя "універсітэты": першы меў за плячыма чатыры судзімасці, другі – адну.

Ахвяру вызначылі хутка. Увагу прыцягнулі двое гандляроў з Мінска, што прадавалі з машыны спіртныя напіткі і іншыя тавары. Больш вопытны Л. падышоў да іх і адразу ўзяў быка за рогі.

– Шаноўныя, з вас 500 рублёў і бутэлька гарэлкі. Аддасце – гандлюйце, калі ласка. Не будзе на чым ехаць дамоў, "тачку" знявечым, – спакойна заявіў ён. Б., які выступаў у ролі асістэнта, моўчкі стаяў побач.

Мінчане адразу зразумелі, што з імі не жартуюць, таму вырашылі "не звязвацца" і аддалі ўстаноўленую даніну.

Тут і падаспелі супрацоўнікі мясцовага ГРАУС, якія затрымалі рэкеціраў на месцы злачынства.

Падрыхтаваў А.БАЛДОЎСКІ.

## Лік на табло

Чарговы, чатырнаццаты тур другога нацыянальнага чэмпіянату Беларусі па футболу адбыўся ў мінулую суботу. Толькі ў адным матчы (у Бабруйску) сустракаліся дзве каманды з лідзіруючай групы: "Трактар" прымаў "Беларусь" і ўступіў мінчанам 0:1. Як расказалі сведкі цэнтральнага матча, пасля няўдачы дома ў гульні з брэсцкім "Дынама" ў Бабруйску мінскіх футбалістаў нельга было спыніць.

Мінскія дынамаўцы дома гулялі з "Шахцёрам". Перавагу гаспадароў двума безадказнымі галамі зацвердзіў Сяргей Гоцманаў, які з шасцю забітымі мячамі зноў выйшаў у лідэры сярод бамбардзіраў чэмпіянату. З такім жа лікам — 2:0 — на сваіх палях КІМ перамог землякоў з "Лакаматыва", а "Ведрыч" выйграў у БелАЗа.

Не быў адкрыты лік у трох матчах: "Дынама" (Брэст)—"Тарпеда" (Мінск), "Хімік"—"Гомсельмаш", "Тарпеда" (Магілёў)-"Будаўнік". З незвычайным для тура лікам — 2:1 "Металург" у Маладзечна перамог "Абутнік".

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама Мн | 13 | 11 | 2 | 0 | 35-7 | 24 |
| Беларусь | 13 | 8 | 2 | 3 | 21-9 | 18 |
| Дынама Бр | 13 | 7 | 3 | 3 | 17-8 | 17 |
| Днепр | 13 | 7 | 3 | 3 | 19-12 | 17 |
| Тарпеда Мг | 13 | 5 | 7 | 1 | 17-8 | 17 |
| КІМ | 12 | 6 | 4 | 2 | 14-6 | 16 |
| Хімік | 13 | 6 | 4 | 3 | 13-15 | 16 |
| Трактар | 14 | 5 | 5 | 4 | 12-6 | 15 |
| Шахцёр | 13 | 5 | 3 | 5 | 11-15 | 13 |
| Тарпеда Мн | 13 | 3 | 6 | 4 | 13-14 | 12 |
| Металург | 14 | 4 | 3 | 7 | 16-12 | 11 |
| Гомсельмаш | 12 | 3 | 4 | 5 | 8-12 | 10 |
| Ведрыч | 12 | 3 | 3 | 6 | 10-17 | 9 |
| Лакаматыў | 13 | 2 | 5 | 6 | 15-21 | 9 |
| Будаўнік | 12 | 2 | 3 | 7 | 6-13 | 7 |
| Абутнік | 13 | 1 | 3 | 9 | 7-22 | 5 |
| БелАЗ | 14 | 1 | 2 | 11 | 8-35 | 4 |

Бамбардзіры: У. Каваленя ("Шахцёр"), Ю.Мазурчык ("Хімік") — па 7, С.Бараноўскі, С.Гоцманаў (абодва —"Дынама"Мн), А. Радушка (("Днепр") — па 6 мячоў.

**На фота: Уладзімір КАВАЛЕНЯ — адзін з лепшых бамбардзіраў чэмпіянату**



*Давайце абмяркуем*

# СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ФУТБОЛА

**Засталіся лічаныя туры да заканчэння першага круга футбольнага чэмпіянату Беларусі. Такім чынам, завяршаецца сезон 1992 года, які прынёс нашаму беларускаму футболу столькі змен і новых з'яў. Паспрабуем зрабіць нейкія вывады, неяк асэнсаваць футбольныя падзеі гэтага года. Паспрабуем разам. Сёння на спартыўнай старонцы "Чырвонай змены" сваімі думкамі дзеляцца галоўныя трэнеры трох каманд першай лігі нацыянальнага чэмпіянату. У наступных нумарах мы, спадзёмся, працягнем гаворку на гэтую тэму.**



Міхаіл ВЕРГЯЕНКА, галоўны трэнер каманды "Дынама" (Мінск), в.а. галоўнага трэнера зборнай Беларусі:

*— Да другога чэмпіянату Беларусі наша каманда падышла вельмі сур'ёзна, без залішняй самаўпэўненасці. Таму, напэўна, у нас няма "прахадных" матчаў, у кожным імкнёмся гуляць упэўнена і мэтанакіравана. Што датычыць агульнага ўзроўню турніру, лічу, што ўсе каманды прыбавілі функцыянальна. Адстаюць пакуль тэхніка, тактыка, псіхалагічная падрыхтоўка. Для трэнерскага корпуса яшчэ шмат работы. Наогул, якасць гульні каманд значна палепшаецца Для многіх арыенцірам з'яўляецца наша каманда. Але шэсць ачкоў адрыву мінскаму "Дынама" даліся дзякуючы ўласнай мабілізаванасці.*

*У нас зараз нядрэнная каманда, для таго, каб пастаянна ўзмацняць гульню, патрэбны яшчэ больш моцныя раздражняльнікі. Таму вельмі хацелася б хутчэй выйсці на міжнародную арэну і памерацца сіламі з моцнымі замежнымі клубамі, зразумела, таксама і з камандамі былога чэмпіянату СССР. Вельмі жорсткі рэгламент нашага чэмпіянату, вельмі насычаны каляндар. Таму цяжка знайсці перапынак, каб правесці міжнародныя таварыскія гульні на ўзроўні клуба ці зборнай.*

*Пакуль не вядомы каляндар гульняў зборнай Беларусі, але ёй ужо неабходна функцыяніраваць, трэба заяўляць пра сябе. Першы таварыскі матч наша нацыянальная каманда згуляе 28 кастрычніка са зборнай Украіны. Спадзяёмся ўбачыць мацнейшых нашых футбалістаў як старэйшага, так і больш маладога пакаленняў. Майстэрства Алейнікава, Гоцманава, Зыгмантовіча, Мятліцкага вельмі патрэбна нашай камандзе. Але нельга не задумвацца аб перспектыве. Любая зборная можа складацца з трох пакаленнняў ігракоў: старэйшага, сярэдняга і малодшага, яны павінны мець пераемнасць, тады складзецца сапраўдная каманда, працаздольны калектыў.*

Сяргей БАРОЎСКІ, галоўны трэнер каманды "Металург" (Маладзечна):

*— Любое мерапрыемства, калі яно з'яўляецца пачаткам чагосьці, заўсёды карыснае. Хаця б тым, што можна вызначыць памылкі і выправіць іх. Першы футбольны чэмпіянат Беларусі рэгрэсу не прынёс. Станоўчае ў ім перш за ўсё тое, што з'явіліся здольныя цікавыя маладыя ігракі. Чэмпіянат прайшоў на эмоцыях, а сапраўднае майстэрства праяўляецца не ў эмоцыях, а ў стабільнасці. Таксама і маладым ігракам, каб стаць сапраўднымі майстрамі, трэба гуляць стабільна.*

*Нацыянальны чэмпіянат агаліў і моцныя, і слабыя бакі беларускага футбола. Моцны бок — з'яўленне перспектыўнай моладзі з жаданнем і здольнасцямі. Слабы бок — нашы эканамічныя пакуты. Ёсць каманды, якія сапраўды пакутуюць. Эканамічных праблем у нас цераз край, што чакае наперадзе — нават цяжка прадбачыць.*

*Што датычыць аптымальнай колькасці каманд у першай лізе? Гуляць можа і дзесяць, і дваццаць каманд, усё залежыць ад патрабаванняў, якія мы прад'яўляем да гульні мацнейшых. Узровень нашага футбола, мне здаецца, сярэдні. Многія каманды падцягнуліся па майстэрству да элітных клубаў. Сапраўдны ўзровень пакажа гульня на міжнароднай арэне. Мне думаецца, мы можам выглядаць не горш за суседзяў — зборныя Латвіі і Літвы. Адной тэхнікай зараз нікога не пераможаш.*

*Нашы алімпійская і нацыянальная зборныя, нашы клубныя каманды павінны гуляць на міжнароднай арэне. Камандам яшчэ расці, але патрэбна закласці пачатак. Патрэбна эканамічная база. Былы сацыялістычны прынцып "давай вынік, а потым атрымаеш усё", — ужо не дзейнічае.*

Іван ШЧОКІН, галоўны трэнер каманды "Беларусь" (Мінск):

*— Я ўпэўнены, што наш футбол знаходзіцца на правільным шляху. Але, на мой погляд, не хапае маштабу. Узровень футбола, які быў дагэтуль у Савецкім Саюзе, для нас пакуль недасягальны. Мы пакуль гуляем паміж сабой, а для таго, каб адбывалася нейкая эвалюцыя, абавязкова патрэбна гуляць з замежнымі камандамі. Як на ўзроўні зборных, так і на ўзроўні клубаў. Чым больш міжнародных матчаў будзе, тым большая карысць беларускаму футболу.*

*Футбол — дзяржаўная справа, у нас жа ён пакуль на нетрывалай глебе. Будаваць футбольную гаспадарку ў рэспубліцы трэба так, каб узняць футбол на інтэлектуальны ўзровень. Гэта датычыць і заканадаўчых, і выканаўчых улад, і нават эканамічных структур.*

*Што датычыць нашай каманды, дык мы працуем з вялікім жаданнем. Апошняя гульня ў Бабруйску нам удалася, узняла наш настрой. Але мы не задаволены. Справа ў тым, што мы працуем не дзеля месца ў турнірнай табліцы, а дзеля якасці гульні. Наша каманда, здаецца, на правільным шляху, яна дасць беларускаму футболу сапраўдных "зорак". У нас выдатныя хлопцы. Але, на жаль, стартавалі мы сярод мацнейшых са спазненнем на паўгода. Цяпер будзем набываць страчанае.*

**Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ.**

**Фота Сяргея БРУШКО.**

## Лік на табло

У аўстрыйскім горадзе Філаху першыя свае матчы ў розыгрышы Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў па хакею згулялі мінскія дынамаўцы. Вынікі, прызнацца, непрыемна здзівілі. Абодва матчы мінчане прайгралі: чэмпіёну Нідэрландаў камандзе "Мітпойнт Ітэрз" (Гелен) 1 : 2 і чэмпіёну Аўстрыі "ВСВ" (Філах) 3 : 5. Пакуль у афіцыйных сустрэчах нашай камандзе не шанцуе. Гэта хвалюе, тым больш, што самыя адказныя матчы наперадзе.

* * *

Прайшоў першы круг валейбольных еўрапейскіх кубкаў. У Кубку Канфедэрацыі стартавалі тры беларускія каманды — дзве мужчынскія і жаночая. Дзяўчаты з гродзенскай "Вяснянкі" двойчы матчы гулялі ў Жэневе супраць "Эліты". Гаспадыні пляцоўкі двойчы перамаглі — 3 : 0 і 3 : 1.

Таксама два матчы ў Латвіі згуляў супраць спартклуба "Рыга" гродзенскі "Камунальнік", але больш удала. У першым матчы гродзенцы перамаглі — 3 :.0, у другім жа саступілі сапернікам (1 : 3), але ўсё ж выйшлі ў другі круг.

Брэсцкая каманда "Заходні Буг" двойчы сустракалася з чаркаскім "Азотам" і двойчы прайграла — 0 : 3, 0 : 3.

Наша самая моцная мінская жаночая каманда "Камунальнік" яшчэ згуляе ў Кубку кубкаў з харвацкім клубам "Рыека".

* * *

Баскетбалісты мінскага радыётэхнічнага інстытута пасля дзвюх складаных сустрэч з грэчаскім "Арысам" у Кубку Еўропы (на жаль, мінчане двойчы ўступілі суперклубу з Салонікаў — 59 : 117, 70 : 107) нарэшце парадавалі беларускіх балельшчыкаў. У сваім другім матчы чэмпіянату Міжнароднай прафесіянальнай баскетбольнай лігі радыётэхнікі 12 кастрычніка ў Каўнасе перамаглі "Жальгірыс" (87 : 66). Выдатная перамога!



